

Дар'я Домрачава — трохразовая алімпійская чэмпіёнка! Чалавек-золата!!!

# Народная Воля

**№ 13 (3856)**

18 лютага 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


**ЛОБ У ЛОБ**

## *Спадар Ладуцька, гэта вам прырода помсціць...*

Як бязглузда падышлі ў Мінску да выбару пляцоўкі пад будаўніцтва гатэля "Кемпінскі" — пісана-перапісана. Сапраўды, гэта ж трэба было пасадзіць велічэзны комплекс з усімі падземнымі камунікацыямі ў некалькіх метрах ад ракі Свіслач! Фактычна знішчаны ландшафт немалой тэрыторыі, парушаны ансамбль парку імя М.Горкага, знявечана цэнтральная частка праспекта Незалежнасці...

Надыдзе час, калі грамадскасці стане вядома, хто канкрэтна з высокіх чыноўнікаў лабіраваў інтарэсы — не, не жыхароў сталіцы — а замежных інвестараў, загадзя ведаючы, якая шкода будзе нанесена ўсяму Мінску. Сёння ж можна гаварыць пра бумеранг, які ўжо атрымалі гора-забудоўшчыкі ад... прыроды.

Днямі старшыня Мінскага гарвыканкама **Мікалай Ладуцька** афіцыйна заявіў, што гатэль "Кемпінскі", які планавалася пабудаваць да чэмпіянату свету па хакеі, не будзе ўзведзены ў вызначаны тэрмін. Калі ён і адчыніць дзверы, дык толькі ў канцы года.

— Затрымкі будаўніцтва адбыліся з-за складаных гідратэхнічных умоў, — сказаў М.Ладуцька.



Так, спадар сталічны начальнік, гэта вам прырода помсціць. Узгадайце, як вырашалася пытанне з выбарам пляцоўкі для гатэля "Кемпінскі". Вядомыя архітэктары выказвалі катэгарычную нязгоду з размяшчэннем яго ў парку імя М.Горкага, побач са знакамітым цыркам. Не прыслухаліся да голасу разумных людзей, як кажуць, выкруцілі рукі тым, чые подпісы сёння стаяць на адпаведных паперках. І вось... Мала таго, што гасцінічны комплекс, які разлічвалі дзеля прэстыжу адкрыць да хакейнага чэмпіянату, не прыме гасцей у запланаваны час, дык яшчэ трэба падлічыць, у якую дадатковую суму выльецца будаўніцтва гатэля.

Нельга не пракаментаваць і такі пасаж М.Ладуцькі. Ён сказаў: *"Прысутнасць сусветнага аператара "Кемпінскі", які ёсць у 140 краінах свету, для нас важна. Такія аператары ідуць не ў кожную краіну"*.

Гэта ж **які** аўтарытэт у свеце павінна мець Беларусь, каб гатэль "Кемпінскі" нарэшце з'явіўся ў Мінску? У спіс першых 140 краін яна, як бачыце, не ўвайшла. Што і казаць, *"такія аператары ідуць **не ў кожную** краіну"*.

**Аляксандр ЗДОЛЬНІКАЎ.**

**ЭКСПЕРТЫЗА**

# Уваліліся...

*Мытны камітэт ужо абнародаваў сумныя лічбы знешняга гандлю Беларусі ў мінулым годзе. Мы прагандляваліся! Купілі за межамі краіны тавараў і сыравіны на 42,8 мільярда долараў ЗША, а прадалі — толькі на 36,8 мільярда долараў. У выніку ўтварылася "валютная дзірка" ў 6 мільярдаў.*

*У любой іншай дзяржаве ў гэтую "дзірку" зваліліся б і ўрад, і прэзідэнт, бо жыць без імпарту наша краіна не можа, а ягоную аплату пад іхнім пільным кіраўніцтвам мы не зарабілі. А значыць, трэба будзе альбо прадаваць заводы, у стварэнні якіх ніякай заслугі гэтай улады няма, альбо ўлазіць ў пастку пазык, выплачваць якія прыйдзецца нашым дзецям і ўнукам. Пры гэтым кожны замежны візіт беларускіх афіцыйных асоб суправаджаецца запэўніваннямі, што ён быў вельмі паспяховым, што падпісаны шматлікія кантракты і эканамічны эфект для нашай краіны будзе неверагодным. "Народная Воля" вырашыла параўнаць гэтыя абяцанні з рэальнасцю.*

*Белстат яшчэ ўдакладняе інфармацыю па знешнім гандлі ў снежні мінулага года, таму будзем абапірацца на афіцыйныя дадзеныя за студзень—лістапад 2013 года.*

## *Венесуэла: імкнёмся да нуля*

Толькі глухі не чуў пра паспяховае беларуска-венесуэльскае супрацоўніцтва. Толькі сляпы не чытаў аб шматлікіх праектах, якія рэалізоўваюць Мінск і Каракас, і аб тых перспектывах, якія адкрывае нашым прадпрыемствам асабістае сяброўства беларускага і венесуэльскага кіраўніцтва.

Незалежныя эксперты, праўда, з першага дня папярэджвалі, што стаўка на Венесуэлу вельмі рызыкоўная, што супрацоўніцтва не можа быць доўгім, што вельмі "ўкладацца" ў гэты накірунак не трэба. Па-першае, таму, што гэта краіна бедная і сама не мае грошай, рэгулярна беручы крэдыты то ў Расіі, то ў Кітая. Па-другое, нестабільнасць улады.

Хто меў рацыю?

Лепш за ўсё гэтую дыскусію, напэўна, рассудзяць лічбы.

Па выніках 11 месяцаў мінулага года тавараабарот у гандлі з Венесуэлай склаў 78 мільёнаў долараў ЗША. Дарэчы, гэта толькі 14,3% (!) ад узроўню папярэдняга, 2013-га, года. А гэта значыць, што пад прапагандысцкую балбатню супрацоўніцтва паступова сыходзіла на нішто. Праўда, станоўчы момант у беларуска-венесуэльскім супрацоўніцтве ўсё ж такі ёсць. Амаль увесь аб'ём гандлёвага абароту склалі пастаўкі беларускіх тавараў за акіян. Іншымі словамі, на гэтым накірунку мы нагандлявалі мала, але сабе ў плюс.

Шкада толькі, што доўгатэрміновыя ўкладанні беларускага боку ў Венесуэлу статыстыка не ўлічвае. А гэтыя ўкладанні, як ужо ўсім зразумела, наўрад ці акупяцца.

## *Кітай: наступленне ў адным накірунку*

Нам ужо і Расія не патрэбна, бо ёсць Кітай! Калі не даслоўна, то прыблізна так выказваліся беларускія афіцыйныя асобы пасля шматлікіх сустрэч з прадстаўнікамі Паднябеснай. І настойліва нас запэўнівалі, што Кітай — гэта перспектыва беларускай эканомікі атрымліваць мільярды мільярдаў сапраўднай валюты.

Праўда, апошнімі днямі загучалі іншыя ноткі. "Кітайцы хітрыя", — днямі прызнаўся кіраўнік урада Міхаіл Мясніковіч, які нядаўна наведваў з візітам гэтую краіну. Аляксандр Лукашэнка ў сваю чаргу выказаў незадаволенасць, што не атрымліваецца рэалізацыя праекта беларуска-кітайскага тэхнапарка, бо фінансаваць яго мы павінны са свайго бюджэту, а вось кітайцы ўкладаць грошы не спяшаюцца. Ды і анансаваная сустрэча на Алімпіядзе ў Сочы беларускага і кітайскага кіраўнікоў, трэба разумець, сарвалася: па крайняй меры, ні адна прэс-служба пра яе не паведамляла.

Вынікі беларуска-кітайскага супрацоўніцтва ў мінулым годзе (за выключэннем снежня) наступныя: гандлёвы абарот склаў крыху больш за 3 мільярды долараў. Нехта скажа: "Дык гэта выдатна!" І паспяшаецца. Бо экспарт беларускіх тавараў у гэтую краіну склаў толькі 412 мільёнаў долараў, а вось кітайскі экспарт — 2,6 мільярда долараў. Большыя паказчыкі адмоўнае гандлёвае сальда склала толькі ў гандлі з Расіяй, але не будзем забывацца, што ў Расіі мы закупляем сыравіну — газ і нафту. А што ў Кітаі? Тавары і тэхналогіі. Прама скажам, не лепшыя!

## *Па маршрутах года*

У якія краіны з візітамі ў мінулым годзе ездзіў Аляксандр Лукашэнка, і ці зафіксаваны пасля іх прарыў беларускіх тавараў на гэтыя рынкі? Гэта таксама лёгка можна праверыць па статыстыцы (прычым мы не аналізавалі візіты, якія былі здзейснены ў другой палове года, бо, можа, часу не хапіла рэалізаваць задуманае).

У сакавіку мінулага года адбыўся візіт Аляксандра Лукашэнкі ў Інданезію. За студзень—лістапад мінулага года Беларусь паставіла ў гэтую краіну тавараў на 84,5 мільёна долараў ЗША. Гандлёвы абарот павялічыўся на 1%.

Наступным адрасам прэзідэнцкага лайнера з надпісам "Рэспубліка Беларусь" на борце быў Сінгапур. Мы паставілі ў гэтую краіну тавараў на 6 мільёнаў долараў, а імпартавалі — на 27,5 мільёна (дадзеныя за ўсё той жа перыяд). Прычым беларускі экспарт на 20% скараціўся, сінгапурскі імпарт — на 55% павялічыўся. Іншымі словамі, "прыстроіць" наш тавар у выніку гэтага візіту не ўдалося.

А вось візіт у Аб'яднаныя Арабскія Эміраты трэба прызнаць паспяховым. Імпарт з ААЭ скараціўся больш як на 60%, затое больш як у два разы павялічыліся нашы пастаўкі. Хаця ўсё роўна аб'ёмы гэтых паставак для міждзяржаўнага гандлю мізэрныя — усяго 36,2 мільёна долараў.

Потым быў візіт у Казахстан. Лічыцца, што гэтая краіна для нас такі важны і блізкі партнёр, што мы працуем з кожным годам усё больш цесна. Аднак на аб'ёмах знешняга гандлю гэта не сказалася. Па крайняй меры, калі параўноўваць мінулы год і пазамінулы. І нават асабістая сустрэча Аляксандра Лукашэнкі і Нурсултана Назарбаева сітуацыю не выратавала.

Праўда, у гандлі з Арменіяй (візіт у Ерэван адбыўся ў маі мінулага года) мы ўвогуле збавілі абароты і нават не выйшлі на паказчыкі 2012 года. Тое самае можна сказаць і пра Украіну, нягледзячы на візіт Аляксандра Лукашэнкі ў Кіеў.

Карацей, калі дзе што і атрымалася прыстроіць па выніках візітаў, то "па драбязе" — абы акупіць сам візіт і знаходжанне дэлегацыі. Так што праблема збыту беларускіх тавараў стаіць досыць востра. І вырашыць яе не ўдаецца нават з асабістым удзелам Аляксандра Лукашэнкі.

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

**ВІНШУЕМ!**

## *Трымайцеся, Юрый Аляксандравіч!*

90 год... Для кагосьці гэта, можа, і шмат. Для Юрыя Аляксандравіча Булюбаша, лічым, мала. Ён заслужыў, каб яго жыццё доўжылася яшчэ доўга-доўга.



18-гадовым хлопцам трапіў на фронт. Удзельнічаў ва ўзяцці ў палон фельдмаршала Паўлюса. Ордэн Чырвонай Зоркі атрымаў з удзячнасцю ад *Самога-Самога*. На яго парадным кіцелі мноства іншых баявых ордэнаў і медалёў. Нямала ўзнагарод, што былі атрыманы ў мірны час.

Ён хадзіў на паляванне з Хрушчовым і рыбачыў з Брэжневым. Будучы сакратаром Уральскага абкама партыі, аб'ездзіў казахстанскую цаліну ўздоўж і ўпоперак.

З 1973 года Юрый Аляксандравіч жыве ў Мінску. Спачатку кіраваў аўтагаспадаркай, а потым будаваў Мінскі метрапалітэн.

Сёння Ю.А.Булюбаш адзначае 90-годдзе. Трымайцеся, шаноўны Юрый Аляксандравіч! Вы маеце права на даўгалецце!

**"Народная Воля".**

**ЖИЛИЩНЫЙ ВОПРОС**

## *Приватизация квартиры в Минске может обойтись от 25 миллионов до 1 миллиарда рублей*

*Но, по словам начальника жилищного отдела управления жилищной политики Мингорисполкома **Ирины Филипповой,** оба предельных показателя — скорее исключения.*

Как информирует агентство "Минск-Новости", за 30 миллионов рублей удастся приватизировать только комнату в квартире или совсем крошечную "однушку" в старом доме не в самом лучшем районе. Квартиры стоимостью более 500 миллионов — это жилье в домах 2000-х годов постройки в каркасном исполнении, с улучшенной планировкой и другими преимуществами. Однако процент государственного жилья в таких зданиях минимален. В среднем же стоимость приватизации квартир в столице колеблется в границах 150—250 миллионов рублей.

**КСТАТИ**

### Приватизировать можно не любое жилое помещение

Так, наниматель не может стать собственником комнаты в общежитии, социального жилья, специальных жилых помещений, государственного жилья коммерческого использования и некоторых других. Весь перечень помещений, не подлежащих приватизации, установлен ст.135 Жилищного кодекса Республики Беларусь. По словам Ирины Филипповой, в районные администрации по-прежнему поступает множество обращений по вопросу приватизации, в том числе повторных. Напомним, указом президента Республики Беларусь №563, который вступит в силу 1 апреля текущего года, предусматривается, что жилые помещения, не приватизированные до 1 июля 2016 года, будут переведены в разряд государственного жилья коммерческого использования.

**ВЕДАЙ ЧЭМПІЁНАЎ!**

*Калі на медалі Дар'і Домрачавай беларускія балельшчыкі на гэтай Алімпіядзе справядліва разлічвалі (і яна свой высокі статус пацвердзіла), то "бронза" біятланісткі Надзеі СКАРДЗІНА і "золата" фрыстайлісткі Алы ЦУПЕР сталі ў нейкім сэнсе з шэрагу прыемных нечаканасцяў.*

# Што мы чулі пра Надзею Скардзіна?

### «...Так я стала беларускай біятланісткай»

Надзея Скардзіна нарадзілася ў 1985 годзе ў Санкт-Пецярбургу.

*"Я юніёркай займалася лыжамі ў Пецярбургу*, — распавяла спартсменка. — *Бегала на гарадскіх спаборніцтвах, рэдка была на першынствах Расіі. Але асаблівых поспехаў не назіралася. Аднойчы аказалася на зборы са зборнай Беларусі па біятлоне. Мне прапанавалі пастраляць — спадабалася. Так што пераходзіла я з лёгкасцю. І гэта быў не пераход з адной краіны ў другую, а з аднаго віду спорту ў іншы".*

Такім чынам, фактычна расійская лыжніца Надзея Скардзіна біятланісткай стала менавіта ў Беларусі.

Сёння яна кажа, што Радзімай лічыць дзве краіны.

### Снайпер

Хуткасць Надзя кампенсуе трапнай стральбой. І ў гэтым кампаненце ёй могуць пазайздросціць нават самыя зорныя біятланісткі.

Напрыклад, у студзені гэтага года на чарговым Этапе Кубка свету пасля гонкі праследавання, дзе наша спартсменка закрыла ўсе 20 мішэняў, Надзея ўстанавіла неафіцыйны сусветны рэкорд па стральбе. Яна не прамахвалася ў пяці гонках на 18 рубяжах запар! А ў Сочы пабіла яшчэ і свой уласны рэкорд...

Дарэчы, да таго, як на Алімпіядзе Надзея Скардзіна заваявала "бронзу", яе лепшыя вынікі былі бронзавы медаль чэмпіянату свету-2011 у эстафеце і "серабро" на этапе Кубка свету.

### «З-за біятлона давялося зрабіць аперацыю на вачах...»

Два гады таму Надзея перанесла аперацыю на вачах.

Астыгматызм — такі быў дыягназ урачоў.

*"Хвароба з'явілася, бо я пастаянна страляла і вочы знаходзіліся ў пастаянным напружанні. Зрок стаў кепскім за вельмі кароткі перыяд"*, — паведаміла спартсменка.

Тым не менш, як бачым, аперацыя прайшла паспяхова, хоць урачы не абяцаюць, што хвароба ніколі не вернецца.

### Са шматдзетнай сям'і і з італьянскім прозвішчам

Надзея выхоўвалася ў шматдзетнай сям'і — у яе два браты і чатыры сястры.

А пра сваё прозвішча Надзя кажа так: *"У мяне на самай справе італьянскае прозвішча: у таты італьянскія і нямецкія карані. Мае бабуля і дзядуля жылі ў Ленінградзе. Так што калі браць з таго часу, то можна сказаць, што я карэнная ленінградка. У маёй маці, да таго як яна выйшла замуж, прозвішча было Кібер — яно, вядома, нямецкае. Шмат чаго перамяшалася".*

### 50 мільёнаў для спартшколы

Надзея за алімпійскую "бронзу" атрымае 50 тысяч долараў.

А ў рамках праекта "Алімпійскі выбар" Скардзіна вырашыла перадаць 50 мільёнаў рублёў Віцебскай спартыўнай дзіцяча-юнацкай школе алімпійскага рэзерву БФСТ "Дынама".





# *Сенсацыя ад Алы Цупер*

### «Неперспектыўная»

Ала Цупер пачала займацца акрабатыкай ва ўкраінскім Роўна, у складзе ўкраінскай зборнай выйграла два юніёрскія чэмпіянаты. Пад украінскім сцягам выступала на Алімпіядзе-98 у Нагана, але пасля пачаліся інтрыгі, закулісныя гульні, і спартсменку спісалі як "неперспектыўную".

Так Ала Цупер апынулася ў зборнай Беларусі, адкуль у свой час і паступіла прапанова.

### «Да залатога медаля ішла 22 гады...»

Спартыўнае шчасце да гэтага часу абыходзіла спартсменку бокам. Хаця Ала Цупер за сваю кар'еру 27 разоў падымалася на п'едэстал Кубка свету, 8 разоў была там першай і нават заваёўвала Крышталёвы глобус, але чэмпіянаты свету і Алімпіяды ёй не пакараліся.

*"Да гэтага медаля я ішла 22 гады*, — сказала пасля перамогі ў Сочы Ала Цупер. — *Менавіта тады я стала ўпершыню займацца ў спартыўнай секцыі. Не шкадую ні аб адным дні, які аддала спорту. І асабліва адчула гэта, калі стала алімпійскай чэмпіёнкай. Вялікі дзякуй усім трэнерам і балельшчкам! Прывітанне Беларусі!"*

### З апошняй спробы

Перад Алімпіядай спартсменка на час пакінула спорт. Выйшла замуж, нарадзіла дачку Лізу, якой зараз усяго паўтара года. Хацела нават назаўсёды пакінуць вялікі спорт, але муж *(які, дарэчы, да спорту не мае ніякага дачынення, ён займаецца бізнесам. —* **Аўт.**), а таксама трэнер каманды ўгаварылі зрабіць апошнюю спробу.

Вясной мінулага года Ала зноў пачала трэніравацца, муж дапамагаў глядзець за малой... Нават паехаў разам з жонкай у Сочы, каб падтрымаць яе.

*"Трэнер Мікалай Іванавіч Казека і муж усё казалі: "Давай, паспрабуй яшчэ!" Пакрысе ўвайшла ў трэніровачны працэс. І вось які вынік! Дзякуй ім за тое, што ўгаварылі..."* — радасна распавядала журналістам пасля перамогі Ала Цупер.

Спартсменка заваявала "золата" ў 34 гады. Яна доўга да гэтага ішла, але галоўнае — дайшла! Для Алы Цупер гэта ўжо былі пятыя Алімпійскія гульні.

### Пра беларускае грамадзянства

*"На сто працэнтаў адчуваю сябе беларускай. Я пражыла ў Беларусі шмат гадоў, тут атрымала развіццё ў той справе, якой хацела прысвяціць жыццё. Ва Украіне ж і тады, і зараз складаная сітуацыя ў профільнай федэрацыі. Спартсменаў да гэтага часу не пускаюць на буйныя спаборніцтвы. Ведаеце, нават калі б я не выйграла золата Алімпіяды, у мяне не было б падстаў шкадаваць аб выбары на карысць Беларусі. Муж мой — этнічны беларус, дачка Ліза — беларуска. Я таксама хутчэй за ўсё беларуска!"* — сказала Ала Цупер пасля бліскучай перамогі.

Дарэчы, калі ў Надзеі Скардзіна італьянскія карані прозвішча, то ў Алы Цупер свая гісторыя. *"У мяне тата нарадзіўся ў Чэхаславакіі,* — кажа яна. — *Мае карані ідуць адтуль, але большага я і сама не ведаю..."*

**Падрыхтаваў Алесь СІВЫ.**

ОТКРЫТЫМ ТЕКСТОМ

# Король голый!



В прошлом году в “Народной Воле” вышли четыре мои публикации о, на мой взгляд, весьма плачевном состоянии белорусской науки. Казалось, что фактов для анализа и размышлений было более чем достаточно, и я ждала вызова в суд в качестве свидетеля или, напротив, обвиняемой в клевете на нашу передовую и цветущую. Но — тишина. Не последовало даже звонка из Президиума Академии наук и банального внутриведомственного интереса к случившемуся. А в последнее время мне довольно часто стали задавать два вопроса: на что я надеюсь и не страшно ли мне? Хорошие вопросы. Полагаю, что ответы на них будут такими же.

## Чтобы не исчезли молча

Я ни на что не рассчитываю и не надеюсь. Просто не хочу, чтобы мы исчезли молча. Мы — это наш народ и белорусские ученые как его часть. Те, кто не покинул страну, не продал свою совесть за пайку или подержанный автомобиль и не растерял разум, даже если приходилось выживать в прямом смысле этого слова. Я всегда буду сторонником той точки зрения, что ученый должен оставаться Гражданином, невзирая на все невзгоды, обстоятельства или угрозы. В противном случае он выбрал не ту профессию. И хотя я знаю, что мои бывшие начальники в очередной раз посмеются над моей “наивностью”, это не изменит моих убеждений.

Что касается страха. Я живой уязвимый человек, и, как любому человеку, мне бывает страшно. Я понимаю, что расправиться со мной не составит большого труда. Но прелесть в том, что это не решит ни одной проблемы белорусской науки и не сделает ее эффективной.

Уже сегодня говорят за себя провальные проекты, которых вообще не должно было быть. К тому же число бесправных контрактников, вынужденных делать “успешных” из некоторых откровенных бездарей, зарабатывая себе на хлеб, а им на жизнь, кстати, весьма достойную даже по западноевропейским меркам, катастрофически тает. Старшее поколение уходит, а на следующее рассчитывать нечего. Учить его некому. Первоклассному педагогу (не важно, школьному учителю, преподавателю вуза или ученому), вкладывающему в учеников душу и знания, мало платить достойно, хоть и этого давно уже нет. У всех участников сложного и длительного процесса обучения должно быть будущее, а не только возможность продления трудового контракта на год-другой при условии, что работник принимает любой абсурд как данность, демонстрируя при этом абсолютное согласие и послушание. Даже чернокожие безграмотные сборщики хлопка в Америке полтора столетия назад отказались быть слепым орудием труда. Наивно рассчитывать, что умные люди, не претендуя ни на что, будут создавать дорогостоящий интеллектуальный продукт для тех, кто выбился в “хозяева” или туда назначен. Ответом будет тихий саботаж, работа спустя рукава и деградация, смена сферы деятельности или бегство из страны. Разве что некоторые “совки” пенсионного возраста еще побудут какое-то время небольшим приятным исключением.

А теперь по существу.

## Себе и «своим» людям

Анализируя нашу неприглядную реальность, дабы избежать ненужных претензий, я буду оперировать только фактами, так или иначе коснувшимися меня. Могут быть некоторые неточности при описании деталей, поскольку лишних глаз и ушей в таких случаях стараются избегать. Возможно, мой рассказ разбудит чей-то спящий разум или совесть. Ведь сегодня мы все заложники ситуации, и глупо надеяться, что платить за все будут исключительно дети соседа.

Итак, в начале 2005 года ко мне со слезной просьбой обратилась бывшая коллега. Лаборатория, где она работала, выполняла какую-то договорную тему. Судя по всему, проект финансировался из академического фонда. В рамках договора необходимо было, в частности, найти способ регулирования пористой структуры фосфата кальция (его используют в фармакологии и медицине). Условия договора требовали также ежегодной отправки в печать как минимум одной статьи, желательно в рецензируемый журнал.

Сложно сказать, чем весь предыдущий год занималась группа сотрудников из 5—6 человек, включая завлаба, но проблема осталась нерешенной. Думаю, проект просто попал не в те руки. Ведь конкурса среди потенциальных исполнителей, как всегда, не было. Но были хорошие деньги, а желающих “освоить” их всегда хватает.

Я услышала кучу похвал в свой адрес и клятвенное обещание рассчитаться по совести, если помогу разгадать загадку. Но, как сказала коллега, на текущий год деньги уже распределены (слово-то какое!) и мне, кандидату наук, могут выделить только “голые” полставки младшего научного сотрудника (около трети моей нищенской бюджетной зарплаты). Правда, по словам коллеги, если я справлюсь с проблемой, то финансирование увеличат и меня тогда уже не обидят. Ситуация была для меня безвыходной: одна тянула двух подростков и жила впроголодь. Особых иллюзий по поводу сделанного предложения у меня не было, но какая-то надежда в душе еще теплилась.

Загадку я разгадала, проблему решила, статью для рейтингового журнала написала, и ее приняли к публикации. Но обещанных денег так и не дождалась. Уже к концу второго года выполнения чужих обязательств я случайно узнала, что заказчик действительно увеличил финансирование. Правда, то ли совесть забуксовала у моих “соисполнителей”, то ли денег много не бывает, однако ни у кого не хватило смелости сказать правду. Выяснилось, что все наградные (ежемесячно 500 у.е. в эквиваленте, что составляло тогда более трех зарплат старшего научного сотрудника со стажем и ученой степенью) давно забирает сосед-завлаб себе и своим людям. Никакого отношения к выполнению договорных обязательств, по крайней мере в тот момент, они не имели. Что-то подсказывает мне, что сотрудники соседа-завлаба, на которых выписывались деньги, не были их конечными получателями.

Узнав о такой схеме “освоения” бюджетных средств, я отказалась готовить очередную публикацию по теме договора, предоставив бывшей коллеге весь материал в виде таблиц и рисунков и руководствуясь элементарной логикой: кому платят, тот пусть хотя бы перерабатывает готовый экспериментальный материал и описывает его. Вот тут мне и напомнили, что я бесправный и беззащитный контрактник, которому обстоятельства не позволяют начать жизнь сначала. Пришлось написать еще одну статью даже без символической платы за труд, но меня оставили в покое. На время. А потом завлаб, лабораторию которого я так неплохо во всех отношениях выручила, снова предложил мне поработать на его интересы. Когда в третий раз я задала вопрос о зарплате, узнала много интересного о себе и своих умственных способностях, хотя до этого подобных претензий не возникало. Что ж, стандартный прием, которым достаточно часто пользуются хорошо устроившиеся начальники и начальнички, чтобы заставить честного и грамотного работника покорно тянуть лямку в бесконечном ожидании скупой похвалы, подачки с барского стола или повышения по службе.

Позже я наткнулась на отчет по договору. В списке исполнителей за меня расписались. Судя по всему, сделали это для того, чтобы я не увидела лишнего (различия в фамилиях исполнителей и получателей вознаграждения, размер выплат и вклад работников в выполнение проекта). Вскоре после того, как меня по непонятным причинам прямо с рабочего места вызвал какой-то товарищ, представившийся сотрудником КГК, и я в качестве примера рассказала ему именно об этом фокусе, переоформленный отчет на подпись принесли, сославшись на мое прежнее отсутствие на рабочем месте, хоть это было неправдой. Ничего интересного больше не случилось, если кто-то понадеялся. Не исключаю, что меня вызывали, чтобы выяснить, готова ли я к борьбе за справедливость, и вовремя заткнуть мне рот при необходимости.

Можно только догадываться, какую сумму, выплаченную заказчиком за выполнение этого проекта, я прикрыла своей тощей грудью. Передо мной никто не подумал хотя бы извиниться. Впрочем, какие могут быть извинения, если речь идет о расходном человеческом материале. Одно утешение, что основная часть работы была сделана качественно и без подтасовок. Но так бывает далеко не всегда.

## «Ноу-хау» местного розлива

В 2012 году белорусский флагман приступил к строительству нового химического завода. Диверсификация производства и расширение товарного ассортимента — дело хорошее. Правда, остался до конца не решенным вопрос, что делать с соляной кислотой — побочным продуктом, если потребуется расширять производство. Одним из предложений было использование ее для получения фосфорных удобрений. К счастью, эта идея небезнадежна, и сопутствующие проблемы солянокислой переработки фосфатного сырья имеют решение. Конечно, таких решений может быть несколько, и с формальной точки зрения каждое из них может рассматриваться как вполне грамотное. Все зависит от конкретных обстоятельств: ответ на поставленный вопрос ищет школьник, студент вуза или ученый. Задача квалифицированного химика как раз и состоит в том, чтобы найти грамотный, по возможности безотходный, экономически оправданный и оптимальный для производителя способ получения удобрения с хорошими потребительскими качествами.

К сожалению, и в этом случае исполнителей снова выбрали из “своих” и без лишней огласки. И хоть я, например, всю жизнь занималась фосфатной тематикой (синтез неорганических фосфатов, их анализ и изучение физико-химических свойств), предложения принять участие в работе над проектом так и не получила, если не считать брошенной через плечо фразы после “освоения” львиной доли денег. Правда, большой начальник в предыдущие полтора года неоднократно напоминал мне о необходимости положить на стол требуемую технологию. Но такого задания не было в моем календарном плане работ, утвержденном руководством. К тому же я помнила, чем может закончиться подобный альтруизм, и с подарками не торопилась.

Отсутствие честного выбора стало причиной того, что получателями шикарного вознаграждения и по совместительству исполнителями стали те, кто никогда серьезно не занимался научными исследованиями в данной области и не выполнял такую работу “под ключ” самостоятельно. Под этим я подразумеваю анализ проблемы, постановку задачи, планирование эксперимента с необходимыми расчетами, обработку полученных данных и подготовку текста научных публикаций. Да, некоторые являются соавторами статей, не блещущих новизной или тиражирующих чужие ошибки. Но даже это написано другими людьми. Сожалею, что обстоятельства требуют называть вещи своими именами.

В итоге “избранные” исполнители смогли продемонстрировать заказчику хорошее знание таблицы растворимости (кажется, данную тему проходят в девятом классе). Попутно они ухитрились-таки “перепутать” формулу фторапатита (полезная компонента фосфатного сырья) с синтетическим средним фосфатом кальция, избавившись от химического элемента фтора и значительно упростив техническое задание. Но это только начало. Если бы авторы дорогостоящих отчетов помнили азы вузовской химии, то без особого труда смогли бы заметить, что предложенная ими “передовая” технология в завуалированной форме повторяет классическое сернокислотное разложение, которое практикуется на большинстве фосфорных заводов. С таким же количеством балласта-фосфогипса в удобрении или в отвалах, но уже с заведомо более высокой стоимостью единицы полезного вещества в готовом продукте. Чтобы не создавать новые горы отвалов, и возникла необходимость облагораживать полученный низкосортный продукт высококачественными фосфорными удобрениями, в какую бы словесную шелуху ни пытались одеть данный технический прием его авторы. Этакое “ноу-хау” местного розлива.

## Распилили…

В течение полутора лет разработчики успешно “освоили” более 2 млрд рублей (с учетом НДС). Чтобы всякие “неправильные” оппоненты не совали свой нос в чужой Сезам, договор защитили пунктом о неразглашении содержания работы третьим лицам. А ведь настоящий хозяин никогда не купит кота в мешке и обязательно воспользуется услугами независимого консультанта хотя бы при анализе теоретической части нового проекта. В большинстве случаев она не является секретом, поскольку строится, как правило, на информации, опубликованной в открытой печати. Конечно, производитель может засекретить даже теоретическую часть, чтобы в некоторых случаях оказаться в выигрыше на фоне своих конкурентов. Но тщательно прятать дилетантизм и грубейшие ошибки бессмысленно, если только речь не идет о спланированном распиле. Заказчики и исполнители, заведомо знающие, что за провалы им придется ответить собственным кошельком или служебной карьерой, вынуждены быть честными.

Есть еще один “нужный плюсик”: государственное предприятие не может обратиться за консультацией к частному лицу. Впрочем, у бесправных обитателей нижних этажей пирамиды белорусской науки (имеется в виду не списочный состав сотрудников учреждения) “лица” чаще всего нет. И далеко не каждый ученый, работая на условиях кратковременного контракта, согласится дать такую консультацию даже неофициально, а если и даст, то его заключение не имеет юридической силы. Тупиковая ситуация для небольшой страны, где дублирующие друг друга государственные научные лаборатории отсутствуют, а чиновники очень “дружат” между собой. Пили — не хочу. Сейчас флагман закрыл фосфатный проект по причине сложного финансового положения. Хороший предлог, позарез необходимый, вовремя подоспевший и очень удобный.

Хочу отметить, что ни заказчик, ни члены экспертной комиссии условий договора не нарушали и содержание работы не разглашали. Хорошо зная исполнителей, я без особого труда вычислила дорогу, которую они способны осилить. Случайности (мир тесен) подтвердили мои догадки. Подробный анализ технологической схемы, предложенной “избранными” исполнителями, по просьбе заказчика я отправила электронным письмом весной 2013 года.

К счастью, это не самая большая наша беда.

Полное отсутствие конкуренции, честных открытых дискуссий и проталкивание в “умные” и “успешные” тех, кто родился с “нужной” фамилией или породнился с ней, становится угрожающим. Ведь эти люди в конечном итоге получают право принимать решения, от которых зависит благополучие, будущее и безопасность страны! Приведу конкретный пример.

## «Добро» не пропадет?

За полвека работы нашего флагмана скопилось огромное количество глинисто-солевых шламов. Эта полужидкая масса хранится в искусственных резервуарах — шламохранилищах. К сожалению, все горнообогатительные фабрики оставляют после себя несметное количество отходов, и мы тут не одиноки.

Отходы промышленных предприятий в цивилизованных странах не используются в качестве удобрений. Содержание полезного вещества в них невелико, а при систематическом внесении они становятся источником серьезных экологических проблем. Сегодня стараются найти способ надежного захоронения таких отходов, чтобы снизить последствия их негативного влияния на окружающую среду. И, кстати, в нашем Уголовном кодексе предусмотрена ответственность за загрязнение почвы химическими веществами и отходами и уничтожение ее плодородного слоя. Казалось бы, зачем изобретать велосипед? Но…

Осенью 2012 года мне попался автореферат одной докторской диссертации. Ее защита на тот момент еще не состоялась. Идея использовать глинисто-солевые шламы на наших пахотных угодьях вместо кондиционного калийного удобрения повергла меня в шок. А вскоре ко мне обратились аграрии. На их опытных делянках растения, получившие в качестве калийного удобрения требуемую порцию шлама, явно страдали, и меня как химика попросили проанализировать и подтвердить возможные причины этих страданий.

Чтобы не слишком обременять читателей, скажу кратко: с минимальной нормой хлорида калия (200 кг), необходимой для выращивания злаковых культур, гектар пахотных угодий при использовании шлама получает в среднем в виде довеска 320—350 кг хлорида натрия (поваренная соль), полтонны известняка-доломита и около тонны смеси из гидрослюд, полевых шпатов и песка. И если присутствие в калийном удобрении известняков можно хоть как-то оправдать их полезностью для наших почв, то в остальной “нагрузке” они явно не нуждаются. Вот такой оригинальный подход: и от отходов избавимся, и деньги заработаем там, где это в принципе невозможно (что-то подсказывает мне, что удобрения из шлама дарить не будут, да и разработчиков не обидят).

Я уже представляю, как бледнеет лицо Владимира Гусакова, академика-агрария, нынешнего руководителя белорусской науки, если он это читает.

При том, что стоимость единицы полезного вещества в новом калийном “удобрении” из-за дополнительных расходов на приведение отходов в товарный вид будет сопоставима со стандартом, доставка и внесение в почву “инновационного” продукта влетит хозяйствам в копеечку: вместо 200 кг хлорида калия каждому гектару пахоты потребуется 2 тонны сухого шлама. Зерно и хлебушек получатся золотыми.

О поваренной соли лучше не вспоминать. Этот отличный консервант быстро погубит важнейшие микроорганизмы, без которых любая почва мертва. Не надо быть ясновидцем, чтобы предсказать снижение урожайности практически всех сельхозкультур уже в первые годы использования шламов. В дальнейшем при их регулярном применении неизбежно последует изменение химического состава и ухудшение основных характеристик почв: действие законов природы никто пока не отменил. Часть поваренной соли, выполнив свою “миссию”, конечно же, вымоется дождями и талыми водами, но это уже отдельная тема.

Кроме того, в шламах концентрируются токсичные реагенты, которые используются при разделении компонентов калийной руды. Разрушить их можно при обжиге, но это значительные затраты. Поведение токсинов, поступивших в почву из калийных отходов, до сих пор изучено плохо, но известно, что при попадании в естественную среду их активность резко возрастает. А ведь без труженика-червячка и почвы не будет.

Что касается песка, полевых шпатов и гидрослюд, то они хоть и являются важной составной частью почвы, ее плодородие не определяют. Напротив, увеличение содержания гидрослюд в общей массе глинистых минералов считается признаком деградации дерново-подзолистых почв, а уж песок и шпаты… И хотя некоторые глинистые вещества могут использоваться как мелиоранты, никто не вносит их бесконтрольно и систематически, не говоря о том, что стоит это удовольствие недешево из-за высоких затрат на очистку и подготовку таких материалов.

Серьезно относиться к шламам как источнику микроэлементного питания растений, если фишка в этом, не стоит. За исключением бора, содержание других ценных микроэлементов невелико. При этом все они остаются недоступными для растений без глубокого разрушения достаточно устойчивой нерастворимой фракции шламов.

Идея разбавлять кондиционное калийное удобрение шламами до соотношения 1:1 в пересчете на сухое вещество не решает проблему разгрузки шламохранилищ и не оправдана экономически, хоть и позволяет резко снизить негативные последствия растаскивания промышленного отхода по нашим пахотным угодьям. Дешевле и честнее было бы построить для внутренних потребителей отдельную “укороченную” обогатительную фабрику. А чего стесняться? Прикажут — местные все проглотят, выхода у них нет.

Не знаю, сколько стоила проверка идеи использовать промышленные отходы в качестве удобрения. Догадываюсь, что дорого. А вот защита докторской диссертации прошла на ура. Никаких лишних вопросов или нежелательных отзывов. Это что, надежное действие контрактного кляпа, круговая порука или удобства чиновничьего кресла, когда можно ни за что не отвечать своим служебным и материальным благополучием? О других тонкостях “успеха” рассказывать не буду.

Кстати, выполняя похожие работы, мы с коллегой как приложение к отчетам обязаны были ежегодно предоставлять этому же заказчику оригиналы протоколов агрохимических испытаний, утвержденные на заседании Ученого совета организации-соисполнителя. Но когда речь зашла об использовании промышленного отхода, правило почему-то изменили, отложив приятное знакомство с протоколами-первоисточниками на заключительную стадию проекта. А наступить она могла лет через пять, например. За это время “освоили” бы море бюджетных денег, продавили покупку дорогостоящего импортного оборудования с отчислением нехилых премиальных дилеру-посреднику и построили завод, после чего поставили отечественных потребителей перед необходимостью регулярно разгружать складские запасы. Последствия использования промышленного отхода никуда не делись бы. Но за ущерб, нанесенный почвам и окружающей среде, ответили бы не продвинутые белорусские ученые, а сотрудники Государственной инспекции по семеноводству, карантину и защите растений, выдавшие по случайному недосмотру или каким-то иным причинам сертификат на данную продукцию. И когда меня начинают убеждать в исключительном уме авторов “пионерской” идеи, я спокойно отвечаю: да, это умные люди, хорошо понимавшие, ***что*** и ***как*** они делают.

## Мальчик всегда найдется

Хочешь не хочешь, но, глядя на происходящее, поневоле приходится думать о спланированных или санкционированных распилах. Тут не до науки — не захлебнуться бы в денежном потоке. Замечательно, конечно, когда под огромные “освоенные” ресурсы кто-нибудь из обитателей нижних слоев пирамиды протягивает на блюдечке неординарное и эффективное решение, а потом тихо исчезает до следующей потребности в услуге. Но чудеса имеют обыкновение заканчиваться. Выстроенная административная модель требует от работников абсолютного “вертикального” послушания, а у такого служебного поведения есть неприятное последствие: люди перестают искать, анализировать, думать, брать на себя ответственность, спорить или возражать. Особенно в ситуации, когда награда за труд стремительно приближается к стоимости скромной потребительской корзинки исполнителя. Не важно, дилетанта или профи, если с “фамилией” не повезло. Тут даже контрактный кнут бессилен. Вот и приехали! И некоторым, кажется, совсем не страшно. Возможно, им уже есть куда бежать.

Если кто-то думает, что меня распирает зависть к обласканным, умеющим устраиваться в жизни и неподсудным белорусским ученым, то напрасно. Моя умница-однокурсница как-то призналась, что от отчаяния и бессилия она порой плачет прямо на рабочем месте.

А в моей душе поселилась боль.

За время, упущенное и растраченное впустую, и за то, что вернуть его нельзя.

За важные и нужные работы, которые могли быть выполнены профессионально, но система наделила “постылых” одним правом — дарить молча.

За угробленных, выдавленных из профессии, несостоявшихся или покинувших страну белорусских ученых.

За утраченный смысл растить и воспитывать смену, такую же контрактную, бесправную и дешевую, как сами наставники.

За миллиарды небогатой страны, спущенные в унитаз или осевшие в “нужных” карманах, но так и не превратившиеся в востребованный интеллектуальный продукт.

За проблемы, которые умельцы устраиваться в жизни оставляют после себя нашим детям и внукам.

За дорогостоящую ложь и неотвратимо надвигающийся крах.

За то, что большинству из нас бежать некуда, а настоящие виновники всевозможных “успехов” будут жить без проблем, издалека посмеиваясь над теми, кому достанутся право и честь разгребать пепелище.

За то, что “рулевые” опять уйдут от ответа на вопрос: нам так нагадили враги-завистники или мы сами до всего докатились?

И последнее. Хозяевам жизни всегда хочется верить, что бесправные и запуганные люди, занятые элементарным выживанием, на большее давно уже не способны. В этом есть какая-то доля правды. Но, к счастью, мир устроен так, что всегда найдется “мальчик”, который громко скажет то, о чем все давно шепчутся по углам: король голый!

**Наталья ШУЛЬГА,**
***кандидат химических наук, бывший старший научный сотрудник.***

**P.S.** *Когда статья была готова к печати, Наталья Шульга получила предложение от Международного Издательского Дома* **LAMBERT Academic Pablishing** *(Германия) оформить отдельной книгой свои научные работы, выполненные за последние 10 лет.*

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Баўмгертнер мог атрымаць 12 мільёнаў долараў

*Уладзіслаў Баўмгертнер па-ранейшаму застаецца пад хатнім арыштам.*



Як піша ўплывовае расійскае выданне “Форбс”, пры сыходзе з пасады гендырэктара “Уралкалія” менеджар мог атрымаць кампенсацыю ў 12 мільёнаў долараў. Такую суму журналістам назваў ананімны прадстаўнік “Уралкалия”. Афіцыйна памер выплаты Баўмгертнеру не называецца. Але ёсць звесткі, што яна была ўключана ў выдаткі на ўзнагароджанне членам праўлення за 2013 год.

Нагадаем, што Уладзіслаў Баўмгертнер пакінуў пасаду гендырэктара кампаніі напрыканцы 2013 года. Яго замяніў намеснік старшыні савета дырэктараў “Уралхима” Дзмітрый Восіпаў. Баўмгертнер захаваў месца ў савеце дырэктараў “Уралкалия”.

У жніўні 2013-га Баўмгертнера арыштавалі ў мінскім аэрапорце. Яго арышт стаў пікам “калійнай вайны” паміж Беларуссю і Расіяй.

ТЫМ ЧАСАМ

## Як складзецца лёс Уладзіслава Баўмгертнера?

*Пасля экстрадыцыі з Мінска кіраўніка “Уралкалия” на сайце “Форбс” на гэтае пытанне адказалі 5185 чалавек. І вось якія вынікі:*

Будзе асуджаны да турэмнага зняволення — 9%.

Атрымае ўмоўны тэрмін — 14%.

Справа будзе закрыта, ён вернецца на працу ва “Уралкалий” — 18%.

Справа будзе закрыта, ён уладкуецца ў іншую кампанію — 31%.

Атрымае буйны бонус за час “у палоне” — 28%.

**Аліна ВЕТРАВА.**

ЗА РУЛЁМ

## Беларускія дарогі аддадуць замежнікам?

*Міністэрства транспарту Беларусі вырашыла зрабіць тры дарогі рэспубліканскага значэння канцэсійнымі. Пра гэта заявіў намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення аўтадарог* ***Аляксандр Галаўнёў.***

Гаворка ідзе пра М7 (Мінск—Вільнюс), М3 (Мінск—Віцебск) і М10 (Гомель—Брэст).

Як патлумачыў Аляксандр Галаўнёў, канцэсія прадугледжвае передачу дарогі ў эксплуатацыю прыватнай кампаніі на 20 гадоў. На гэты перыяд фірма бярэцца мадэрнізаваць, абслугоўваць і рамантаваць дарогу за свае ці прыцягнутыя сродкі, але пры гэтым таксама атрымлівае магчымасць спаганяць плату за праезд.

*“Гэта найбольш прагрэсіўны спосаб дзяржаўна-прыватнага партнёрства,* — цытуе Галаўнёва агенцтва “Мінск-Навіны”. — *Ён не накладвае на дзяржаву такіх строгіх абавязацельстваў па вяртанні сродкаў, як крэдыт. Тут рызыкі размяркоўваюцца паміж дзяржавай і кампаніяй, якая ўзялася за працу”.*

На сённяшні дзень кіраваць беларускімі дарогамі на ўмовах канцэсіі пажадалі тры кампаніі з Іспаніі, Польшчы і Францыі. Канцэсіянераў будуць выбіраць па выніках тэндарных таргоў, якія пачнуцца пасля таго, як будзе афіцыйна зацверджаны пералік аб'ектаў.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
18 ЛЮТАГА 2014 г.

ПАЗІЦЫЯ

## Такіх я не шкадую...

Аб абыякавасці многіх беларусаў да стану свайго жыцця сведчаць шматлікія анекдоты, у гэтым прызнаюцца самі людзі, аб гэтым неаднаразова пісала “Народная Воля”. Таму з цягам часу ў мяне выпрацавалася наступная пазіцыя.

...Я не шкадую рабочых заводаў, фабрык, калі іх пачынаюць звальняць ці не выплачваць заробкі з-за цяжкага эканамічнага становішча, у якое звальваецца краіна. Раней многія з іх атрымлівалі неабгрунтавана высокія заробкі, і іх нішто не цікавіла. Цяпер ім прыйдзецца толькі ганарыцца той прадукцыяй, якую яны выраблялі. МАЗаўцы — аўтазакамі, а рабочым машынабудаўнічых прадпрыемстваў — кайданкамі. Да гэтага вас задавальнялі “чарка ды скварка”.

...Я не шкадую сялян, у якіх заробкі мізэрныя, а яны на выбарах галасуюць за тых, каго назначыць начальства.

...Я не шкадую моладзь, якая разам з бацькамі вымушана аплачваць сваю вучобу ў ВНУ і на пачатку сваёй працоўнай дзейнасці атрымлівае капейкі, але якая, кіруючыся карыслівымі матывамі, уступае ў БРСМ і па загадах чыноўнікаў спрытна бяжыць на датэрміновае галасаванне і не цікавіцца палітычным жыццём у краіне.

...Я не шкадую пенсіянераў, якія атрымліваюць смешныя пенсіі і паўтараюць “Толькі б не было вайны”, але якія не задумваюцца, якая краіна застанецца пасля іх і што аб іх будуць думаць іх дзеці і ўнукі.

Абагульняю сказанае прыказкай: “Бараны пастуха не абіраюць”.

**Уладзімір Іванавіч ІВАНОЎ, мінчанін.**

ПРАБЛЕМА

# Лазня без... гарачай вады

У нашай сацыяльна арыентаванай краіне працягваюць адбывацца разбуральныя працэсы. У многіх вёсках зачыняюць школы, дзіцячыя садкі і лазні. Хаця мы жывём ужо у XXI стагоддзі, але не ўсе жыхары, асабліва ў сельскай мясцовасці, маюць у сваіх дамах гарачую ваду ці ванну. Некаторыя будуюць уласныя лазні, спрабуюць зрабіць аўтаномны падагрэў вады, а іншыя дагэтуль, як у тым анекдоце, чакаюць вясны і лета, маўляў: *“А колькі той зімы!”* Так што адбываецца з грамадскімі лазнямі?

Напрыклад, у гарадскім пасёлку Гарадзея Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці, дзе пражывае каля пяці тысяч жыхароў, ёсць дзве грамадскія лазні. Яны адносяцца да УП “Нясвіжская ЖКГ”, але лазні працуюць вельмі дрэнна, і гэта з’ява не часовая. А вось што вельмі добра працуе, дык гэта рост коштаў на квіткі ў лазню! Не паспелі пенсіянеры атрымаць падвышаную на 5% пенсію, цана квіткоў скокнула амаль на 10%. Цяпер сярэдняя сям’я можа дазволіць сабе памыцца адзін раз у месяц. На мой погляд, калі ўвесь час павышаць кошт квіткоў, людзі могуць зусім адмовіцца ад наведвання лазні.

Адміністрацыя УП “Нясвіжская ЖКГ” не можа ніяк зразумець, што лазня — гэта памяшканне для мыцця чалавека з адначасовым уздзеяннем гарачай вады і цёплага паветра.

Адна лазня знаходзіцца ў цэнтры пасёлка, на адлегласці 50 метраў ад будынка Гарадзейскага пасялковага выканаўчага камітэта. Пасля капітальнага рамонту лазні (дарэчы, быў зроблены рамонт толькі палавіны будынка) яна зусім перастала нармальна функцыянаваць. Увесь час на дзвярах з’яўляюцца аб’явы: *“Па тэхнічных прычынах лазня не працуе”, “Парыльня не працуе”, “Гарачай вады няма”* і гэтак далей.

Другая лазня знаходзіцца ў прамысловай зоне гарадскога пасёлка, на адлегласці 100 метраў ад Гарадзейскага цукровага камбіната. Тут таксама шмат праблем: то няма цёплай вады, то работнік, які грэе ваду, п’яны, а ў жаночым аддзяленні няма парыльні і гэтак далей. Чаму такога работніка, які п’е на рабоце, нельга адправіць, каб ён піў дома? Няўжо ён, як вертыкальшчык, кіруе працай гэтай установы?

Але самае галоўнае: працуе лазня нармальна ці без гарачай вады — плаці па поўным тарыфе! Гэта ўжо выклікае не толькі незадавальненне, але нават і нецэнзурную лексіку. Часта прыходзяць на памяць старыя прымаўкі: “У лазні ўсе роўныя” або “У лазні генералаў няма”. Магчыма, і дрэнна, што грамадскую лазню не наведваюць генералы ад улады, таму яны не ведаюць сапраўднага стану рэчаў. Усе чыноўнікі знайшлі сабе саўны, прыватныя лазні, а на патрэбы большасці людзей яны глядзяць абыякава, іх гэта не хвалюе. Колькі можна цярпець такія здзекі?

Невядома таксама, калі апошні раз гэтыя лазні наведвалі санітарныя службы раёна. Калі ўжо адбудзецца ў лазнях генеральная ўборка, яны ж працуюць толькі два дні на тыдзень? Чаму касір, які прадае 20—30 квіткоў за пятніцу, ці суботу, не можа прадаць венік, мыла, ручнік, мінеральную ваду і гэтак далей? Гэтыя лазні часта наведвалі жыхары навакольных вёсак, якім увогуле няма дзе памыцца. Цяпер часта жыхары Гарадзеі, у каго ёсць аўтамабілі, едуць мыцца ў лазню ў Мір або Карэлічы, але гэта цягне яшчэ большыя выдаткі і час. Народу трэба мыцца, а некаторыя, напрацаваўшыся на халодным паветры, ідуць, каб пагрэцца. Людзі здаўна ведалі аб карысці лазні, а мясцовыя чыноўнікі — не ведаюць. Калі зазірнуць у гісторыю, то лазня заўсёды была самым свяшчэнным месцам пасля царквы...

**З павагай —**

**Яўген СТУЖЫНСКІ, жыхар г.п.Гарадзея.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Героям чужым спрыяе рэжым

**Згодна з рашэннем Мінскага гарсавета, зялёнай зоне ў мікрараёне “Каменная Горка” прысвоена назва “Парк імя Уга Чавеса”.**

*А прамільгне няўзнак стагоддзе,*
*Нібы маланка, і тады*
*Сатрэцца памяць у народзе,*
*Травою зарастуць клады.*
*У парку*
*У зацішны вечар*
*Гуляцьмуць з хлапчуком бацькі,*
*І запытаецца малеча:*
*— А Уга Чавес — хто такі?*
*І што, скажыце мне, за людзі*
*І Бангалор, і Балівар?*
*У роздуме матуля будзе*
*Няўцямна, доўга моршчыць твар.*
*А бацька сыну той парою*
*Адкажа ўпэўнена, бадай:*
*— Ды гэта ж нашыя героі,*
*Бо баранілі родны край.*

* * *

*Сваіх герояў знаем туга —*
*Ці ж над гісторыяй не здзек?*
*Затое будзе Чавес Уга*
*У нашых сэрцах.*
*І навек.*

## Без ідэі, у тупік вёў, выходзіць, кіраўнік

**“Прыйшоў час выдзеліць тое, што стане беларускай ідэяй, якая аб’яднае ўсіх грамадзян і ў якую паверацъ усе — ад акадэміка да селяніна”.**

***Аляксандр Лукашэнка***

*Нам даводзілі дагэтуль,*
*Быццам справы ў нас — не швах:*
*Маем мы ідэю-мэту,*
*Маем свой, адметны шлях.*
*Выстаўлялі нам задачы,*
*Потым бралі на кантроль,*
*І ніхто нам не тлумачыў:*
*Дык у чым ідэі соль?*
*“Працавала-шчыравала”*
*Ідэолагаў гурма,*
*Ды з таго карысці мала,*
*Нават і зусім няма.*
*Без ідэі жыць няможна,*
*Бо нуда душу зграбе,*
*І таму ідэю кожны*
*Выбраў толькі для сябе.*
*Абудзіліся нацдэмы,*
*Парашылі, што цяпер*
*Час вярнуцца да праблемы*
*Паўзабытай БНР,*
*Адрадзіць пара Пагоню,*
*Бел-чырвона-белы сцяг,*
*Толькі з імі мы сягоння*
*Можам выйсці на прасцяг.*
*Дэмакраты-лібералы*
*Заклікалі наш народ:*
*Каб падмурак быў трывалы,*
*Акрамя даброт-выгод,*
*Трэба мець яшчэ свабоду,*
*Чалавечыя правы.*
*Хтось даводзіў: трэ народу*
*Павярнуцца да царквы.*
*Мы з малітвай — вось ідэя! —*
*Мецьмем многа перамог,*
*Дапаможа, абагрэе*
*І заўжды накорміць Бог.*
*А народ ідэі-мары*
*Не ўспрымаў чамусь няік.*
*Нехта думаў пра даляры,*
*Хтось хацеў “набіць валляк”.*
*Мэта ў большасці будзённай,*
*Простай, быццам цвік, была:*
*Чым сям’ю карміць штодзённа,*
*Дзе “дабавіць” з пахмяла.*
*І жылі, хто як умее...*
*Раптам кліч правадыра,*
*Што агульную ідэю*
*Нам займець прыйшла пара.*
*Гэты кліч — як крык тапельца,*
*Што вось-вось адчуе дно,*
*Як апошняе цяпельца,*
*Бо кастра ўжо не відно...*
*Дый, выходзіць, без ідэі*
*Ўслед за Бацькам наш народ,*
*Як яўрэі за Майсеем,*
*Праблукаў аж дваццаць год?*
*Ён, Майсей, прывёў усё-ткі*
*Да святой зямлі людзей.*
*Мы ж ці знойдзем шлях кароткі?*
*І ці той у нас Майсей?..*

* * *

*Паблудзілі без надзеі,*
*Тупікоў спазналі шмат,*
*І цяпер адна ідэя —*
*Памяняць, нарэшце, лад.*

ТАК ДУМАЮ...

## Спасем себя сами

Отвечая на вопрос читателя “Народной Воли” М.М.Буйнича “Каго выбраць адзіным кандыдатам на прэзідэнцкія выбары?”, хочу сказать вот что: мне восьмой десяток лет, и я считаю, что нам для истинно счастливой жизни необходима **парламентская система управления.** Наша история, жизнь, как мне кажется, нам не только показала, но и доказала эту истину, она неопровержима. Разумная форма управления — это народный парламент, который утверждает премьер-министра и правительство, берущее 100%-ную ответственность за достойную жизнь своего народа.

**Е.И.ШИДЛОВСКИЙ, ветеран труда.**

*Минск.*

ПРЕДЛАГАЮ...

# Василия Леонова — в президенты!



Мне уже за 70 лет. И последние два десятилетия я наблюдаю, как А.Лукашенко относится к людям, приверженным Конституции.

Уже давно нет Юрия Захаренко, Виктора Гончара, Анатолия Красовского, Дмитрия Завадского. Каток репрессий прокатился по Михаилу Чигирю и его семье, практически по всем тем, кто баллотировался в президенты. КГБ до сих пор неравнодушно к Анатолию Лебедько. Сидят в тюрьме экс-кандидат в президенты Николай Статкевич, предприниматель Николай Автухович, правозащитник Алесь Беляцкий.

Когда-то с ведома А.Лукашенко надели наручники и на экс-министра сельского хозяйства Василия Леонова. А Леонов был очень авторитетным человеком, таких людей власть обычно ненавидит. Я могу смело сказать, это стойкий, честный, не сломленный властью человек. Мне очень бы хотелось видеть Василия Севастьяновича президентом Республики Беларусь.

**Тимофей МАКАРЕНКО.**

*Витебск.*

ПАМЯТЬ

# Отец белорусских энергетиков

Хорошо, что на страницах “Народной Воли” печатаются материалы о тех, кого уже нет среди нас, но кем по праву может гордиться Беларусь. Вот и я хочу хотя бы вкратце рассказать об Александре Ивановиче Руцком, заслуженном деятеле науки и техники, профессоре, со дня рождения которого 20 февраля исполнится 110 лет. Он принадлежал к тому поколению белорусских ученых, которым суждено было возродить высшую школу Беларуси.



Свою трудовую деятельность А.И.Руцкий начал в 1926 году после окончания физико-математического факультета Белорусского государственного университета. Поработав некоторое время в Минском политехникуме, он решил получить более фундаментальное образование в области электротехники и поступил в Ленинградский электротехнический институт (ЛЭТИ), который закончил с отличием в 1932 году. Возвратившись в Минск, стал работать в энергетическом институте. А с 1934 года, когда отраслевые институты были объединены в один Белорусский политехнический институт (БПИ), А.И.Руцкий стал доцентом кафедры электротехники.

С 1941-го по 1945 год А.И.Руцкий находился в действующей армии в составе ВВС Западного, Центрального и 3-го Белорусского фронтов и прошел путь от Подмосковья до Кёнигсберга. Он был среди тех, кто в 1941 году последним покинул Минск, а в июле 1944-го вступил в родную столицу в числе освободителей.

После войны Александр Иванович вернулся к любимому делу. В 1946 году он поднял вопрос об открытии в БПИ энергетического факультета и возобновления подготовки инженеров-электриков. Следует пояснить, что в довоенное время БПИ выпустил небольшую группу инженеров-энергетиков (около 150 человек). Затем в конце 1930-х годов набор студентов по этой специальности был прекращен, а набранные ранее студенты были направлены доучиваться в другие вузы Союза. Поэтому вероятность положительного решения этого вопроса была очень мала.

Однако, видимо, доводы Руцкого были столь убедительны, что в БПИ все же появился энергетический факультет, и Александр Иванович был назначен его деканом.

Первому руководителю энергетического факультета предстояло решить три большие задачи: восстановить материально-техническую базу факультета, создать новый научно-педагогический коллектив, развернуть эффективные научные исследования по актуальным проблемам энергетики.

Главным направлением в решении второго вопроса А.И.Руцкий считал подготовку кадров из собственных питомцев. Подготовка научных кадров велась как через целевую аспирантуру, так и в аспирантурах БПИ и Академии наук. Таким путем из выпускников первых десяти лет (1950—1960 гг.) было подготовлено более 80 кандидатов наук, из которых впоследствии более 25 стали докторами и профессорами. Среди них — В.И.Новаш, В.Ф.Степанчук, А.М.Леонков, В.С.Каханович, М.Ильин, Г.Анисович, О.И.Ясько, А.Н.Девойна, К.Ф.Степанчук, Н.Антонишен и другие. Эта первая когорта белорусских ученых-энергетиков и положила начало дальнейшему развитию научных исследований не только в БПИ, но и в других вузах, институтах АН и Белорусском филиале ЭНИНа им.Г.М.Кржижановского.

Результаты научных исследований профессора А.И.Руцкого опубликованы в научных журналах (более 80 статей) и монографиях. Им был написан и издан еще в 1931 году первый учебник по электротехнике на белорусском языке, а также первое фундаментальное учебное пособие по курсу “Электрические станции и подстанции”.

Невозможно перечесть все задачи, которые были решены за первые 25 лет существования энергетического факультета БПИ, когда его возглавлял А.И.Руцкий. Кроме научно-педагогической деятельности профессор А.И.Руцкий принимал активное участие в работе Госплана БССР, являлся председателем правления Белорусского научно-технического общества энергетиков, главным редактором журнала “Известия вузов СССР — Энергетика”.

За подвиги, совершенные во время Великой Отечественной войны и трудовые заслуги в мирное время профессор А.И.Руцкий был награжден шестью орденами и многими медалями, а также Почетной грамотой Верховного Совета БССР и Министерства ВО СССР.

В 1954 году ему было присвоено звание заслуженного деятеля науки и техники БССР, а в 1970-м — звание заслуженного энергетика Минэнерго СССР.

Александр Иванович Руцкий был человеком высокой культуры, хорошо знал белорусскую историю, белорусскую литературу и язык. Он говорил, что объективные звания своей истории являются прочным фундаментом для построения лучшего будущего.

Он был настоящим патриотом своего Отечества и относится к числу лучших его сыновей.

**Александр КРАСЬКО, кандидат технических наук, доцент.**

СТАРАЯ ТЭМА

## Дзе патанцаваць бедным пенсіянерам?



Нядаўна даведалася, што ў парку Чалюскінцаў танцпляцоўку рамантаваць не будуць і быццам бы яе зусім зачыняць. Як так можна? Дзе ж клопат улады аб старэйшым пакаленні, пенсіянерах, якія маюць невялікую пенсію і не могуць дазволіць сабе пайсці ў палацы культуры?

Нядаўна была ў сястры ў Маскве, і разам з кампаніяй паехалі ў Сакольнікі на танцпляцоўку. Божа, які цуд! У парку сярод бяроз і сосен вельмі прыгожая, сучасная пляцоўка: пад зводамі купалоў з каланамі пасярэдзіне, агароджаная цёмным таніраваным шклом з падсветкай. І музыка была цікавая і разнастайная. Душа радуецца, танцаваць хочацца, настрой добры! І самае галоўнае — нічога не баліць! Танцатэрапія такая, што ніякія дактары не патрэбны, гэта лепш за лекі!

Чаму ж не зрабіць і нашым гарадскім уладам для беларускіх пенсіянераў такую забаву? Ведаю, што раней ездзілі на танцы ў санаторыі “Крыніца”, “Пралеска”, “Беларусачка”, але цяпер туды так проста не трапіш — усё загароджана. І вось куды дзецца? Дзе патанцаваць бедным пенсіянерам?

**Л.Е.КРАСНІЦКАЯ.**

З НАГОДЫ

## Гісторыя ўсё расставіць на свае месцы...

Даведалася, што Музей Максіма Багдановіча далучаць да Музея гісторыі беларускай літаратуры. На мой погляд, ёсць выпадкі, калі эканомія бюджэтных сродкаў павінна адступіць на другі план. Або патрэбна нагогул забыцца пра гэты аргумент, калі размова ідзе пра Зорку Багдановіча. Яна ўзышла над нашай зямлёй на імгненне, і гэтага імгнення ёй хапіла, каб ніколі не пагаснуць, а праз стагоддзе свяціць яшчэ ярчэй.

Музей Максіма Багдановіча павінен жыць, як і раней, самастойнай музейнай адзінкай.

*...Ад усіх цяпер патомкі ёсць,*
*Ды няма адных —*
*Страцімавых.*

Дух зацінае, калі чытаеш верш “Страцім-лебедзь”. Гэта ж і пра яго, паэта, лёс. Дык няхай працягам яго жыцця будзе музей і наша памяць. Імя Максіма Багдановіча, яго Зорка Венера, Васілёк, Пагоня як вобразы гістарычнай памяці даўно ўжо сталі паэтычнай візітнай карткай беларусаў ва ўсім свеце. І тут наша, беларуская, інтуіцыя павінна падказаць правільнае рашэнне.

Трымаю выразку з “Народнай Волі” за снежань 2001 года. У артыкуле Эдуарда Акуліна ёсць такія радкі (з яго верша):

*Максім, не вяртайся*
*з далёкае Ялты,*
*Цябе не пазнае тутэйшы народ.*

Трэба меркаваць, актуальнасць гэтых слоў узрастае?

Мы ўсе любім нашу родную Беларусь. Давайце яшчэ раз узважым, апытаем, падумаем на будучае. Гісторыя такая рэч, што раней ці пазней усё паставіць на свае месцы. Мы павінны ўсвядоміць, на які высокі маральна-патрыятычны ўзровень уздымае нас, беларусаў, Максім Багдановіч. І ў гэтым кантэксце вельмі важны сам факт існавання Літаратурнага музея Максіма Багдановіча як самастойнай адзінкі. Гэта мой асабісты погляд, яго падказвае мне настаўніцкая інтуіцыя і жаданне, каб нашы беларускія жамчужыны ззялі ва ўсю моц і не зацяняліся.

**З павагай —**

**Галіна АЛЯХНОВІЧ.**

*в.Вялічкавічы Салігорскага раёна.*

ВОЗВРАЩАЯСЬ К НАПЕЧАТАННОМУ

# Для полноты картины

Спасибо вам за статью “Крылатый гений солдатской славы”, напечатанную в “Народной Воле” 11 февраля 2014 года.

Но Лигута Владимир Николаевич — это я, полковник в отставке и автор книги “У Сморгони под знаком Святого Георгия”, а бывший морской летчик — фронтовик, полковник в отставке Лигута Николай Яковлевич — это мой отец.

Ну и для полноты картины: Лигута Яков Матвеевич — это мой дед, участник Первой мировой войны.

Фото прилагаю.

**С уважением —**

**В.Н.ЛИГУТА.**

Лигута Владимир.





Лигута Яков.



Лигута Николай.

СУСТРЭЧЫ

*Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ:*

# «...І хацеў навучыць жонку прыёмам фехтавання»

*Доктар навук. Прафесар. Аўтар 900 (!) навуковых прац. Адзін з самых глыбокіх і сумленных даследчыкаў мінулага Беларусі і асабліва — часоў нашай сярэдневечнай дзяржавы Вялікага Княства Літоўскага. Грунвальд (1410 г.) як напамін, што мы нацыя рыцараў і асілкаў; лёсавызначальная падзея ў летапісе Бацькаўшчыны легендарная Аршанская бітва (1514 г.) — увасабленне беларускай вайсковай славы; Слуцкае паўстанне — збройны чын у барацьбе за нашу незалежнасць і яшчэ шмат, шмат пра што ў розных выданнях. І гэта ўсё — ён, гонар айчыннай навукі, Чалавек года (1998 г.) па версіі Міжнароднага Кембрыджскага біяграфічнага цэнтра, вядомы грамадскі дзеяч, былы старшыня МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"* ***Анатоль Пятровіч ГРЫЦКЕВІЧ,*** *які нядаўна прымаў віншаванні з 85-гадовым юбілеем.*



**Заўсёды разам.**
**Ада Вячаславаўна і Анатоль Пятровіч Грыцкевічы.**




Хто не сустракаў яго, можа падумаць: пры такіх заслугах і шаноўным узросце гэта ж, відаць, вельмі важны, сур'ёзны-сур'ёзны чалавек з насупленымі брывамі. Што ж, наконт глыбокай унутранай сур'ёзнасці і аналітычнага розуму, найвышэйшай прафесійнай годнасці спрэчак няма. Але дзе тая ўяўная "вучоная" напышлівасць? Яе, дзякуй Богу, і знаку няма! Анатоль Пятровіч — найдабрэйшая душа, мора абаяльнасці і ўзор выкшталцонай інтэлігентнасці. Любіць тонкі гумар, трапны бяскрыўдны жарт. З ім лёгка размаўляць аб усім на свеце, не баючыся адхіліцца ад "галоўнай лініі". Вось і зараз, у гутарцы аб гісторыі, нечакана закранулі... фехтавальную тэму.

**— Анатоль Пятровіч, вы і праўда займаліся фехтаваннем?**

— Праўда, праўда, а вы што думалі? Яшчэ студэнцкай парой так захапіўся, што, калі атрымаў дыплом Мінскага медінстытута і ўжо працаваў урачом, не кінуў свой занятак. Аднойчы, перакананы ў тым, што і з пачаткам сямейнага жыцця з каструлямі і пялюшкамі рамантыка не канчаецца, прыцягнуў дадому рапіры, маскі. Стаў угаворваць маладую жонку (мы з Адай Вячаславаўнай разам вучыліся і пабраліся) увайсці ў ролю майго саперніка ў паядынку. Ды яна заўпарцілася: не і не! Пэўна, не захацела ваяваць са мною. А я ж хацеў трэніравацца не толькі ў спартыўнай зале...

**— Цікава, што ўпершыню вас туды прывяло?**

— О, тады гэта быў вельмі папулярны від спорту, было нямала здольнай моладзі, выдатныя настаўнікі. Беларускія фехтавальшчыкі паспяхова выступалі ў спаборніцтвах на міжнароднай арэне. Шкада, што, мне здаецца, гэты прыгожы, мужны і відовішчны від спорту зараз амаль занядбаны. А ён выхоўвае ў маладым чалавеку адвагу, годнасць, высакародства...

**— Напэўна, і гены вашы аб тым гаварылі?**

— Куды ж без іх? Яны ў мяне — ад старадаўняга шляхецка-дваранскага роду, дзе шпага была штодзённым атрыбутам мужчыны. Дарэчы, у мінулым годзе ў серыі "Кнігазбор" убачыла свет мая кніга "Выбранае". Там сярод даследаванняў хвалюючых і сёння гістарычных падзей ёсць расповед пра наш, Грыцкевічавы, род, карані якога ў вёсцы Варкавічы на слаўнай слуцкай зямлі. Таму я і пішу пра былое сваёй Случчыны — там столькі цікавага, важнага для гісторыі, духоўнай і матэрыяльнай культуры Беларусі. Адтуль мае продкі.

**— Калі ласка, раскажыце, хоць коратка, пра свой радавод.**

— Мне давялося даследаваць яго, адгортваючы назад старонкі сямейнага летапісу, аж да XVI стагоддзя. Неяк разгарнуў і прымацаваў да сцяны малюнак-абрыс разложыстага радаводнага дрэва Грыцкевічаў — дзякуй сябру-мастаку за дарагі мне дарунак. Унук Лёша, зайшоўшы ў пакой, ажно застыў, уражаны, на месцы. Потым доўга разглядаў, распытваў і нарэшце не ўтрымаўся: "Ого, колькі нас! І я на самым версе..." А я баяўся, што сённяшнім маладым такое ўжо нецікава. Удакладніў Лёшу: "Дрэва будзе яшчэ вышэць — і праз цябе таксама. Ведай, што яно расце з каранёў і пачалося ад запісанага ў Літоўскім летапісе Юхно Грыцкевіча — "баярына княгіні Слуцкай". Праз колькі дзён прылятае ўнук са школы — і да мяне: "Дзядуля, я расказаў свайму сябруку пра наша дрэва — дык ён не верыць і сам не ведае нават, хто ягоны дзед!"

**— А каго вы са сваіх продкаў ведаеце, калі можна так мовіць, персанальна?**

— Я ж казаў — усіх, пачынаючы з XVI веку. Дзеля прыкладу спынюся хаця б на адным лёсе. Мой прапрапрадзед Пракоп Паўлавіч — беларускі шляхціц і беларускі выбранец (так тады называлі вайскоўцаў) — служыў у Слуцкім палку ў чыне малодшага камандзіра і неўзабаве чакаў павышэння. Але пасля Трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 годзе і далучэння нашых зямель да Расійскай імперыі беларуская шляхта была пазбаўлена дваранскага звання. Праўда, потым "высочайший указ" Аляксандра І дазваляў вярнуць яго, аднак пры дакументальным пацвярджэнні сваіх правоў прэтэндэнтамі. І Пракоп мусіў ехаць у французскі горад Клермон-Феран: там быў афіцыйны цэнтр, у яго велізарны архіў сцякаліся дакументы з розных краін. Пракоп вярнуўся адтуль, як кажуць, на кані і з нядрэнным валоданнем французскай мовы. А быў жа нашчадкам сялян, што аралі зямлю, мацавалі сваё Вялікае Княства, баранілі яго ад нападнікаў.

Між іншым, ад'язджаючы на радзіму, прапрапрадзед на роспыты французскіх знаёмцаў, калі ж гэта ў Расіі ўсталюецца нарэшце спакой і працвітанне, беларускі, ужо законны, дваранін нечакана адказаў: "Тады, калі памешчыцкую зямлю перададуць сялянам!" Смелая была заява, нестандартна мысліў шляхціц Пракоп Грыцкевіч! Як не ганарыцца ягонай асобай?

**— А далей?**

— Калі і далей у дэталях, то раней чым праз тыдзень не ўдасца скончыць... Дадам толькі, што ўсе ў нашым родзе былі вартыя павагі, усе адданыя Айчыне. Бацька мой, Пётр Навумавіч (1897 г. нараджэння), быў настаўнікам, а з пачаткам Вялікай Айчыннай вайны адразу пайшоў на фронт і склаў галаву пад Масквой увосень 1941-га...

**— Анатоль Пятровіч, у вас ёсць запаветная мара?**

— Ды праз усё жыццё думаю: толькі б не зганьбіць годнасць сямейнай дынастыі, не разарваць гэты, даражэйшай за золата, ланцуг генеалагічнай гістарычнай памяці. Вельмі ўсцешаны, што працяг дынастыі будзе! Да траіх маіх унукаў далучыўся і праўнук Леў. Яму толькі шэсць месяцаў, а я ўжо малюю ва ўяўленні, як будзе расці, дарослець, пазнаваць гэты свет. Як з ягонымі бацькамі будзем вучыць дзіця грамаце і ўменню мысліць. І калі Бог падорыць мне яшчэ колькі гадоў, то стану вучыць хлопчыка фехтаванню! Хацелася б бачыць, як прачынаюцца ў характары рысы рыцарства, годнасці і чалавечнасці, гатоўнасць рынуцца на абарону ўсяго, што дорага сэрцу і розуму.

Яшчэ хачу, каб прапраўнук, як зараз праўнукі і ўнукі, чытаў мае кнігі, каб ведаў, якая краіна даравана яму ў спадчыну многімі пакаленнямі слаўных продкаў. Без гэтага і кроку не ступіш наперад, будзеш не жыць, а існаваць.

**— Хай збудзецца ўсё задуманае! Толькі скажыце яшчэ: вы ж самі, па ўсім відаць, не спыняецеся на дарозе і не ставіце рысу пад багатым навуковым плёнам?**

— Само сабою. Пакуль працую — жыву. Не хацелася б выглядаць гэтакім "героем" за пісьмовым сталом, але як спыніцца, калі на гэтым стале — рукапіс амаль завершанай новай кнігі. Яна прысвечана маладаследаванаму, але надзвычай цікаваму перыяду рэфармацкага руху ў нашым краі. На чале гэтага рэлігійна-грамадскага руху быў адзін з яркіх прадстаўнікоў самага знакамітага ў Еўропе беларускага магнацкага роду — Мікалай Радзівіл (Чорны). Ён меў на мэце духоўную паяднанасць усіх насельнікаў Вялікага Княства Літоўскага праз адзіную рэлігію і тым самым — умацаванне і ўзвелічэнне ВКЛ. Яно, паводле яго ўяўлення, павінна было стаць абсалютна самастойнай, незалежнай ні ад Польшчы, ні ад Расіі дзяржавай.

Ды не сталася гэтак... Чаму, я і прапаную сённяшняму чытачу, закідваючы думку наперад, паразважаць са мною разам.

**— Якія ж перспектывы ў выданні вашай кнігі, калі яна рушыць за край рабочага стала?**

— Па праўдзе, дык вельмі і вельмі туманныя. Сёння далёка не кожны беларускі навуковец ці пісьменнік з-за незалежных ад яго прычын (пра якія, аднак, ведаюць усе) — жаданы госць у дзяржвыдавецтвах, мае надзею друкавацца, ствары ён хоць шэдэўр. Ні ў якім разе не залічваю сябе ў гэты пашанотны шэраг, але ў нас нямала выдатных творцаў, як, да прыкладу, волаты духу Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч і іншыя майстры мастацкага слова і дакументалістыкі, адкрывальнікі яшчэ не зведанага ў навуцы. Самае цяжкае, аказваецца, для творцы — як давесці напісанае да людзей. Грошы, грошы і грошы ўсё вырашаюць. А дзе іх знойдзеш?

**— Дык, можа, выбачайце за змрочны жарт, абрабаваць які банк — ці выбегчы са шпагай у руцэ перад носам крутога "мерса"?**

— А што, "ідэя" (*усміхаецца*). Толькі стараваты я ўжо для падобных подзвігаў, і жанчыны не хочуць і глядзець у мой бок...

**— Не хочуць глядзець?! Не нагаворвайце на сябе, калі ласка, і не какетнічайце, Анатоль Пятровіч. На любым зборы, у любой кампаніі — вы са сваёй па-ранейшаму спартыўнай стаццю і шляхетнай абыходлівасцю нязменна ў цэнтры ўвагі, у тым ліку і жаночай. Ніхто — па крайняй меры я не чула — не здольны на такі вытанчаны камплімент даме, ды яшчэ падораны ад усяе душы. Нават пры "законнасці" перабольшвання ў гэтым жанры хочацца не толькі ў тое верыць, а і адпавядаць сказанаму. Баюся толькі, каб Ада Вячаславаўна мяне не пачула...**



**Гадавалы Толя Грыцкевіч, будучы гісторык, ужо намагаецца глядзець далёка-далёка (1930 г.).**

— Здаецца, ужо пачула — і нейкія знакі мне падае. Расшыфроўваю іх так: час завяршаць нашу гутарку, трэба хуценька рыхтавацца да сустрэчы гасцей. Колішнія мае студэнткі з тагачаснага Інстытута культуры патэлефанавалі: ідзём з кветкамі! Ну, ці адмовішся? Вельмі буду рады пабачыцца.

**— Дык вы ж супярэчыце самі сабе, дарагі Анатоль Пятровіч! Толькі што скардзіліся на недахоп жаночай увагі... Зычу вам такіх жа — і іншых — прыемных супярэчнасцяў і сустрэч як мага больш. І, канечне, галоўнае — не размінуцца са сваімі чытачамі, якія пры ўсёй рознасці поглядаў і прыхільнасцяў шукаюць і знаходзяць у вашых працах аб'ектыўную, выверaную праўду аб тым, што цікавіць і хвалюе.**

**І дазвольце калектыву рэдакцыі "Народнай Волі" перадаць аднаму з самых паважаных і жаданых яе аўтараў сардэчныя зычанні добрага здароўя, нестарэючага творчага імпэту і вечна маладога адчування жыцця!**

— Дзякуй усім, хто мяне яшчэ не забывае...

**Святлана КЛІМЕНЦЕНКА.**



**Побач з Васілём Быкавым (справа) на плошчы Незалежнасці ў Мінску падчас урачыстага прыняцця беларускімі вайскоўцамі прысягі на вернасць Айчыне (8 верасня 1992 г.)**



**З братам Валянцінам Грыцкевічам — таксама знаным гісторыкам (1986 г.)**

І СМЕХ, І ГРЭХ!

## *Ці выправяць памылкі ў гімне Віцебска?*

*Адказ на гэтае пытанне супрацоўнікі гарвыканкама далі старшыні абласной арганізацыі "Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны" Іосіфу Навумчыку.*

Іосіф Навумчык напісаў адкрыты ліст у адміністрацыю, каб паказаць на шэраг недарэчнасцяў, а таксама граматычных і лексічных памылак у тэксце, зацверджаным у якасці гімна горада. Старшыню віцебскага аддзялення ТБМ цікавіла, якім чынам падобны твор стаў сімвалам горада і ці абавязкова вывучаць яго ў школах ды ВНУ.

Аказалася, што вучыць яго не трэба, а вось мяняць няўдалы тэкст чыноўнікі не збіраюцца. Як паведаміла начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі **Наталля Шуенок**, гімн Віцебска прыняты 27 сакавіка 2013 года рашэннем Віцебскага гарадскога Савета дэпутатаў. Гімн ужо запісалі на студыі, і кампакт-дыскі перададзены ва ўсе ўстановы культуры, адукацыі, у арганізацыі і на прадпрыемствы горада.

Сайт "Народныя навіны Віцебска" зазначае, што ў сакавіку мінулага года падчас галасавання за гімн Віцебска на афіцыйным сайце гарвыканкама супраць гімна **Тамары Красновай-Гусачэнка** выказаліся 73,7% наведвальнікаў. Між тым менавіта гэтая кампазіцыя перамагла. Згодна з вершам Красновай-Гусачэнка, *"панад Віцебскам цераз вякі храм Успення бялюткі ляціць".* Таксама аўтар няўдала ўжыла слова "свет", паблытаўшы яго са словам "святло". Усе моўныя памылкі і недарэчнасці тлумачацца тым, што першапачаткова гімн быў напісаны на рускай мове.

**Сяргей ШЭЛЕСТ.**

КРИМИНАЛ

## *Что выносят с МТЗ?*

Читаем сообщение пресс-службы Партизанского РУВД. *"История началась с того, что водитель "скорой помощи" медицинского пункта завода согласился вывезти на служебном транспорте похищенные трактористом предприятия два приборных щитка с ключами для тракторов,* — сообщает пресс-офицер Партизанского РУВД **Анна Чиж-Литаш**. — *Тракторист похитил их прямо с конвейера. Провезти груз через проходную у них не получилось — задержали сообщников на выезде сотрудники милиции, которые находились в тот день на рейдовом мероприятии. Общий ущерб предприятию был оценен в 20 миллионов рублей".*

Во втором случае водители МТЗ пытались вывезти на служебной машине металлические рамки для тракторов, четыре аккумулятора, несколько глушителей и около 20 литров дизельного топлива.

*"Похитителей задержали оперативники отдела по борьбе с экономическими преступлениями Партизанского РУВД столицы,* — информирует пресс-офицер. — *Сумма возможного ущерба составила около 10 миллионов рублей".*

Напомним, за последнее время это уже не первый случай выявленных хищений с МТЗ. В начале февраля сообщалось о приговоре — четыре года лишения свободы с конфискацией имущества с отсрочкой исполнения наказания на три года получили три работника МТЗ за кражу металла с завода, тогда сумма ущерба составила 137 миллионов рублей.

ЧУЛІ?

## *У аэрапорт — на цягніку*

Цягнікі ў кірунку Нацыянальнага аэрапорта "Мінск" пусцяць 7 лістапада. Пра гэта паведаміў міністр транспарту і камунікацый Беларусі Анатоль Сівак.

Спецыялісты Міністэрства транспарту і камунікацый удакладнілі, што на першым этапе будзе арганізаваны рух па наяўнай чыгуначнай лініі на сучасных дызель-цягніках. Існуючы чыгуначны шлях будзе падоўжаны амаль да самага аэрапорта.

Астатнія 550 м да аэрапорта пасажыры змогуць пераадолець на спецыялізаваных аўтобусах з нізкай падлогай або пры дапамозе травалатара (беспрыступкавай дарожкі).

## *Алег Трусаў просіць беларускага міністра транспарту паўздзейнічаць на літоўскага калегу*

Ліст старшыні ГА ТБМ А.Трусава называецца "Аб ігнараванні дзяржаўнай беларускай мовы літоўскай чыгункай". Напісаны ён невыпадкова.

*"У ТБМ звяртаюцца грамадзяне Беларусі са скаргамі на тое, што ў літоўскім электрацягніку Вільнюс—Мінск усе абвесткі робяцца на літоўскай, рускай і англійскай мовах, прычым першая мова для інфармацыі нават на беларускай тэрыторыі — літоўская, а дзяржаўная беларуская мова — мова тытульнай нацыі — наогул адсутнічае.*

*У сувязі з гэтым просім Вас звярнуцца да кіраўніцтва літоўскай чыгункі з просьбай увесці дзяржаўную беларускую мову ў пералік моў для інфармацыі ў літоўскіх цягніках, асабліва калі яны ідуць па тэрыторыі Беларусі",* — гаворыцца ў пісьме А.Трусава на імя міністра транспарту і камунікацый Рэспублікі Беларусь А.Сівака.

Што і казаць, дзіўна ўсё выглядае: пасажырам, якія прыбываюць у Мінск вільнюскім электрацягніком, пасля аб'яў на літоўскай, англійскай і рускай мовах здаецца, што яны прыехалі ў Маскву. А можа, гэта здзеклівы напамін нам, беларусам, што родная мова ў нас не ў пашане? У любым выпадку ад такіх суседзяў, як літоўцы, хочацца мець падтрымку, а не кпіны.

**Вольга КРАЎЦЭВІЧ.**

## *Ледзь не спаліў былую жонку*

60-гадовы беспрацоўны абліў яе бензінам і пагражаў падпаліць.

Інцыдэнт адбыўся 16 лютага ў дачным доме ў вёсцы Векер Магілёўскага раёна. Нагодай для здарэння стала спрэчка мужчыны з 63-гадовай жанчынай. У дадатак мужчына нападпітку.

Зламысніка затрымалі. Як паведамляе сайт Магілёўскага УУС, за пагрозу забойства яму пагражае арышт да шасці месяцаў.

РЕГИСТРАТУРА

## С импортными лекарствами перебоев не будет?

***Совет министров направил в Палату представителей проект Закона "О внесении изменений и дополнений в Закон Республики Беларусь "О лекарственных средствах".***



Те изменения, которые предлагают разработчики законопроекта, в цивилизованном мире давно норма. Там, например, невозможно представить ситуацию, что пациент приходит в аптеку купить оригинальное лекарство, прописанное ему на длительный срок доктором, а его нет на прилавках потому, что фирма-производитель проходит перерегистрацию препарата в Минздраве. У нас же таких примеров немало. Осенью прошлого года гипертоники метались по аптекам в поисках "Нолипрела", с наступлением сезона простуд с аптечных прилавков пропал "Терафлю". Дефицит этих препаратов был вызван тем, что они находились на перерегистрации в Центре экспертиз и испытаний Министерства здравоохранения. И пока чиновники выявляли в подаваемых на перерегистрацию документах какие-то неточности, отправляли их на доработку, фирма-производитель не имела права поставлять на рынок данное лекарство. А страдали-то мы, пациенты.

Сейчас, если депутаты одобрят поправки в Закон "О лекарственных средствах", таких казуистических ситуаций не будет. Потому что предлагается упростить административные процедуры по государственной регистрации лекарственных средств. На известные, успешно продаваемые во всем мире лекарства предлагается, как в Евросоюзе и в России, установить бессрочную регистрацию. То есть известным компаниям не придется каждые пять лет, как сейчас, регистрировать на белорусском рынке, например, "Но-шпу", "Мезим", "Панадол" и многие другие проверенные и качественные препараты.

Среди предлагаемых в закон "О лекарственных средствах" изменений, есть и другие, защищающие права пациентов на качественное лечение. Они уже давно и успешно внедрены в практику развитых стран. Но, как говорится, лучше позже, чем никогда. Например, законодательно предлагается с 1 января 2015 года приостанавливать реализацию в аптеках Беларуси лекарств, выпуск которых не соответствует стандартам GMP. Причем предлагается накладывать табу не только на импортные, но и на белорусские препараты. А что такое соответствие требованиям GMP? Это выпуск лекарств на современном оборудовании, в специальных помещениях, где не просто все стерильно, где контролируется температура воздуха и влажность, учитываются другие технологии, то есть это гарантия того, что производитель выпускает качественные лекарства. К слову, все фармацевтические заводы Беларуси не позднее 2015 года обязаны перейти на выпуск лекарств по требованиям GMP. Получается, что тем, кто не успеет, дорога на отечественный рынок лекарственных средств будет заказана. И, значит, есть смысл предположить, что с 2015 года качество отечественных препаратов, которые продаются в наших аптеках, улучшится. Хотя некоторые эксперты не считают, что новые поправки в закон решат проблему с качеством и эффективностью белорусских препаратов. *"GMP — это тот контроль, который гарантирует качество лекарства с фармацевтической точки зрения, но не отвечает на вопрос, будет ли это лекарство лечить,* — замечает представитель одной известной фармацевтической компании. — *Т.е. важно не только то, на каком оборудовании и в каких условиях лекарство производится, но и из какой субстанции оно готовится, что используется в качестве наполнителя. Следовательно, ответ на вопрос, какой препарат более эффективный в лечении — белорусский или импортный, остается открытым. Кроме того, если эта норма в законе появится, ассортимент лекарств обеднеет, с рынка исчезнут недорогие импортные дженерики, которые выпускаются по старинке, без сертификации GMP". "Хотя, безусловно,* — соглашается специалист, — *если на рынок будут пускаться только лекарственные средства, изготовленные по GMP, — качество лекарств в среднем по рынку вырастет".*

**Мария ЭЙСМОНТ.**

БЕЗ ГАЛЬШТУКА

# Як праводзяць вольны час і адпачываюць дзеячы беларускай апазіцыі і прадстаўнікі ўлады?

*“Народная Воля” высветліла, ці часта яны бываюць у тэатрах, на вернісажах і калі апошні раз куплялі квіткі ў кінатэатр?*

## Сяргей Калякін ладзіць шахматныя турніры

*Лідар Беларускай партыі аб’яднаных левых “Справядлівы свет” **Сяргей Калякін** часцяком адпраўляе жонку ў тэатр з сяброўкай. Але літаральна днямі і сам разам з ёй збіраецца паслухаць оперу.*

— Не скажу, што я такі прасунуты тэатрал, але вось вырашылі схадзіць на “Яўгенія Анегіна” — квіткі ўжо даўно ўзялі, — *паведаміў “Народнай Волі” Сяргей Іванавіч.* — Праўда, да свайго сораму, іду ў Вялікі тэатр оперы і балета першы раз пасля рамонту. Перыядычна бываю ў драматычных тэатрах, хаця, шчыра кажучы, у апошнія гады мне гэта стала не надта цікава. У кіно быў з жонкай каля месяца таму — у кінатэатры “Беларусь”. Але што за фільм глядзелі — не памятаю... На канцэрты хаджу рэдка. І нават не скажу, калі ў апошні раз быў...

Дарэчы, я сам у маладосці трохі спяваў і дрынкаў на гітары. І калі сёння збіраемся нейкай кампаніяй і ёсць адпаведны настрой, то спяваем: і савецкую класіку, і застольныя песні.

А яшчэ я вельмі люблю лазню. Спортам сур’ёзна не займаюся, але зарадку кожную раніцу раблю — 40 хвілін на гэта сыходзіць штодня. Шахматы люблю. У мяне ёсць сябар, з якім мы перыядычна ладзім турніры. Я не фанат, але ўмею гуляць ва ўсе гульні — пачынаючы ад шашак і заканчваючы футболам і хакеем. У свой час прафесійна займаўся спортам, маю разрад па гандболе і футболе. І калі б зараз скінуць гадоў 40 — зноў пайшоў бы ў актыўны спорт! Але і палітыку не кінуў бы. Не лічу сябе чалавекам, які памыліўся з выбарам у жыцці. Я займаюся справай, якую люблю і ў якой, як мне здаецца, нешта разумею. Хоць у мяне былі зусім іншыя думкі — у сталым юнацтве сур’ёзна планаваў займацца навукай. Але атрымалася так, што трапіў у палітыку, як у азартную гульню! І завязаць вельмі складана: чым больш гуляеш, тым больш падабаецца...

## Алег Гулак любіць гучную музыку і ціхі адпачынак

*Што цікавіць старшыню РПГА “Беларускі Хельсінкскі камітэт” **Алега Гулака** акрамя праваабарончай дзейнасці?*

— Мне вельмі падабаюцца вада і прырода, — *распавядае вядомы юрыст*. — І лепшы варыянт летняга адпачынку для мяне — мора, палатка на беразе і мала людзей.

Калі казаць пра бытавыя і паўсядзённыя забавы — вельмі люблю класічныя, хардавыя рэчы. Але ў кватэры такую музыку слухаць праблематычна: калі гучна ўключыш, дык нават свае раздражняюцца, не кажучы ўжо пра суседзяў!

У тэатрах, на канцэртах і выставах, па праўдзе кажучы, бываю даволі рэдка. Работа звязана з пастаяннымі зносінамі, вакол увесь час людзі, таму пасля працоўнага дня не вельмі хочацца ісці ў месцы масавага скаплення людзей. Душа прагне чагосьці больш камернага. Хоць заўсёды карыстаюся магчымасцю пагутарыць з сябрамі, якія захапляюцца тэатрам.

Паходы ў кінатэатры мне таксама не вельмі падабаюцца — фільмы ў апошні час спампоўваю з інтэрнэту. Кнігі чытаю ў асноўным прафесійныя. Часам люблю ўзяцца за дэтэктыўчык... Наведваю выставы знаёмых мастакоў, бываю на канцэртах знаёмых музыкантаў. Плюс у мяне ёсць добрая сяброўка з кансерваторскіх, якая займаецца асветай у сферы класічнай музыкі. Таму апошнім часам у машыне і дома раблю акцэнт на класіцы.

Паколькі работа звязана яшчэ і з раз’ездамі, часцяком бываю ў заходніх музеях. І ведаеце, прыйшоў да высновы: чым больш ездзіш па свеце, тым больш шануеш свой дом, сваю родную беларускую прыроду! І нядаўна пасля замежных ваяжаў мне проста жыццёва неабходна было паездзіць па азёрах і рэчках Беларусі, захацелася аднавіць дзедаву сядзібу і вярнуцца да вытокаў...

## Анатоль Лябедзька можа жыць без тэатра

*Старшыня Аб’яднанай грамадзянскай партыі **Анатоль Лябедзька** пасля апошняй адсідкі ў СІЗА КДБ зразумеў, што ў жыцці самае галоўнае...*

— У тэатрах хацелася б бываць значна часцей, — *адзначае Анатоль Уладзіміравіч*. — Мы з жонкай Святланай раз на два-тры месяцы стараемся выбірацца або ў Купалаўскі, або у Рускі. Такія культпаходы сталі практыкаваць пасля маёй адсідкі ў “амерыканцы”, куды я трапіў пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года. Да гэтага ўсё было значна горш. Пасля СІЗА я вырашыў выхадныя абавязкова прысвячаць маме і жонцы.

Але сказаць, што не магу жыць без тэатра ці філармоніі, я не магу.

Што тычыцца літаратуры, то, як ні дзіўна, запоем чытаў у “амерыканцы”. А так у год звычайна праглынаю некалькі кніг — гаворка ідзе пра мастацкую літаратуру. Чытаю і мемуары вядомых і знаёмых мне людзей — вось якраз адклаў кнігу ўспамінаў Гары Пятровіча Паганяйлы...

## Уладзімір Някляеў: днём — палітыка, вечарам — тэатр, ноччу — паэзія

*Кіраўнік кампаніі “Гавары праўду!” **Уладзімір Някляеў** вядзе сапраўдны свецкі лад жыцця. І, самае дзіўнае, усюды паспявае. Ён і на канцэрт “Ляпісаў” у Вільнюс паехаў, і ў Варшаве на нашай “Пінскай шляхце” быў, і адным з першых паглядзеў апошнюю прэм’еру Купалаўскага “Пан Тадэвуш”, і ў майстэрнях некаторых мастакоў часты госць.*

*Амаль паўсюль Уладзімір Пракопавіч з’яўляецца разам з жонкай Вольгай.*

— Вольга любіць музыку, тэатр і асабліва — выяўленчае мастацтва, — *распавядае “Народнай Волі” палітык і паэт.* — Выцягвае мяне амаль на ўсе мастацкія выставы, якія адбываюцца ў Мінску. Яе любімыя мастакі — Кацярына Сумарава, графікі Вішнеўскі, Сітніца і Савіч. Карацей, усё з нацыянальным ухілам.

У кінатэатрах мы даўнавата не былі. Мне падаецца, цяпер усё сучаснае кіно можна глядзець у інтэрнэце.

*Уладзімір Някляеў адзначае, што на культурніцкіх імпрэзах ніколі не сустракае сваіх калег па палітыцы.*

— Шчыра кажучы, я вельмі рэдка, а дакладней — амаль ніколі не бачу ў тэатрах і на выставах тых людзей, якія займаюцца палітыкай. Гэта вельмі кепска! — *гаворыць Някляеў*. — Я проста настойліва рэкамендаваў бы ўсяму нашаму палітычнаму бамонду часцей бываць у культурных установах. Бо некаторыя наведваюць толькі палітычныя мерапрыемствы і тусоўкі па інтарэсах. Мастацтва вучыць думаць, робіць чалавека больш дасканалым, духоўна развівае і ўзбагачае. А як духоўна расці, займаючыся выключна палітыкай, — я гэтага проста не ўяўляю! У мяне днём — палітыка, вечарам — тэатр ці выстава, а ноччу — паэзія. А калі штодня і штоночы займацца адной палітыкай — па-мойму, можна проста звар’яцець...

## Ігар Шуневіч выходзіць у свет з жонкай

*Міністр унутраных спраў Беларусі **Ігар Шуневіч** не раз быў заўважаны ў Купалаўскім тэатры. Праўда, вялікім тэатралам Ігар Анатольевіч сябе не лічыць.*

*У мінулым месяцы генерал-маёр разам з жонкай былі на закрытым паказе “Пана Тадэвуша”. Пасля першага акта “Народная Воля” пацікавілася яго ўражаннямі ад пастаноўкі.*

— Пакуль супярэчлівыя, — *адказаў ён*. - Магчыма, таму, што проста доўга не быў у тэатры, а спектакль складаны.

*Тым не менш пасля спектакля міністр доўга стоячы апладзіраваў артыстам. Яшчэ ў Купалаўскім генерал-маёр бачыў абноўленую “Паўлінку”. Сказаў, што застаўся задаволены.*

— Калі ў мяне з’яўляецца вольны час, імкнуся праводзіць яго толькі з сям’ёй, — *распавёў кіраўнік МУС.* — А з блізкімі мне ў радасць займацца чым заўгодна!..

## Станіслаў Шушкевіч выбірае класіку

*Старшыня Вярхоўнага Савета 12-га склікання, а цяпер пенсіянер **Станіслаў Шушкевіч** цярпець не можа поп-музыку і ніколі не глядзіць канцэрты зорак эстрады па тэлебачанні.*

— На канцэртах і ў тэатрах цяпер практычна не бываю, — *адказаў Станіслаў Станіслававіч*. — Мне трэба думаць пра тое, дзе зарабіць капейчыну, бо наш нелегітымны прэзідэнт парушыў Канстытуцыю і пазбавіў мяне пенсіі. Пры гэтым выбіраю такія спосабы заробку, якія найбольш адпавядаюць таму, каб захаваць здароўе. Напрыклад, я чытаю лекцыі ў далёкіх замежных краінах. І калі-нікалі наведваю там розныя імпрэзы. У Злучаных Штатах Амерыкі былы амбасадар ЗША ў Беларусі Дэвід Суорц і кіраўнік Рады БНР Івонка Сурвілла не так даўно зрабілі Дні Беларусі ў двух каледжах у штатах Аёва і Канзас. Запрасілі мяне, я адказаў на пытанні, якія цікавілі амерыканцаў...

Раней з жонкай хадзілі на прэм’еры і ў беларускія тэатры, але на сённяшні дзень у нас такія ўмовы, што мы разам не можам сысці з дома: ужо недзе з паўгода хварэе цешча, мы яе не пакідаем адну.

Што да канцэртаў, то я проста цярпець не магу поп-музыку, гэтыя скокі і прыхлопванні! І калі абсалютна бяздарныя, на мой погляд, спявачкі заяўляюць, што займаюцца творчасцю! Я аддаю перавагу раменнікам. Вось, напрыклад, Бах лічыў, што займаецца рамесніцтвам, і казаў, што творчасцю не займаецца, але тварыў так, што і па сёння разабрацца з ягонай спадчынай не могуць. Таму я аддаю перавагу класіцы.

## ЗАСВЯЦІЛІСЯ...

Генеральны пракурор **Аляксандр Канюк** быў заўважаны разам з жонкай на прэм’еры “Мястэчковага кабарэ” ў Купалаўскім тэатры.

Віцэ-прэм’ер **Анатоль Тозік** — часты госць у Вялікім тэатры оперы і балета. Так, ён быў на прэм’еры нацыянальнага балета “Вітаўт”. Але Анатоль Афанасьевіч яшчэ ў бытнасць старшынёй Камітэта дзяржкантролю наведваў не толькі прэм’еры па запрашальніках. Даволі часта яго бачылі на балетах разам з жонкай і дачкой (а цяпер часцей — з унучкай).

Былы міністр адукацыі, а цяпер першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта **Аляксандр Радзькоў** з жонкай ужо не першы год 31 снежня наведвае святочны канцэрт, які ладзіць у Белдзяржфілармоніі Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам маэстра **Аляксандра Анісімава.** У мінулым годзе ягоная спадарожніца нават падаравала Анісімаву прыгожы букет ручной работы. На гэтым жа канцэрце ў філармоніі быў і кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта **Андрэй Кабякоў**.

На мастацкіх выставах беларускіх чыноўнікаў можна сустрэць даволі рэдка. Прадстаўнікі Міністэрства культуры — не ў лік. Бо большасць мерапрыемстваў той жа **Барыс Святлоў** і ягоныя намеснікі наведваюць усё ж такі па рабоце. Тым не менш калі-нікалі на значных вернісажах у Нацыянальным мастацкім музеі з’яўляецца былы міністр замежных спраў (а цяпер — спецыяльны прадстаўнік холдынга Міхаіла Гуцэрыева “РуссНефть” у Беларусі) **Сяргей Мартынаў** з жонкай Маргарытай. Рэгулярна Сяргей Мікалаевіч бывае і на тэатральных прэм’ерах і іншы раз нават суправаджае жонку на паказах мод.

Павіншаваць з 90-годдзем народнага мастака **Леаніда Шчамялёва** прыходзіў былы кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта **Урал Латыпаў.**

Актыўнае свецкае жыццё вяла жонка былога прэм’ер-міністра **Сяргея Сідорскага** Людміла. Яна ўдзельнічала ў дабрачыннай акцыі “Чырвоная сукенка”, уваходзіла ў апякунскі савет фестывалю “Млын моды”. Людміла Сідорская любіць балет і драматычны тэатр. Між іншым, нават мужа, калі той быў пры высокай пасадзе, яна выцягвала ў тэатр. Праўда, сам Сяргей Сяргеевіч у такіх выпадках імкнуўся застацца незаўважным і прасіў не афішыраваць ягоную прысутнасць публіцы.

Былы старшыня КДБ генерал **Уладзімір Мацкевіч**, які з’ехаў працаваць у Расію, таксама любіць тэатр. Ён перыядычна бывае і ў Купалаўскім, і ў Рускім тэатрах.

Не аднойчы на тэатральных пастаноўках і канцэртах некаторых заезджых зорак можна было заўважыць цяперашнюю памочніцу А.Лукашэнкі **Наталлю Пяткевіч**.

АЎТАРЫТЭТНА

## Якая публіка сёння ўвогуле ходзіць у тэатр?

*На гэтае пытанне “Народная Воля” папрасіла адказаць мастацкіх кіраўнікоў Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі і Тэатра імя Янкі Купалы Аляксандра Гарцуева і Мікалая Пінігіна.*

— Калі дзяжуру на спектаклі, са сваёй рэжысёрскай ложы бачу людзей са спіны, — *гаворыць **Мікалай Пінігін***. — І ў антрактах не зазіраю людзям у твары. Я не дзялю людзей на апазіцыянераў і чыноўнікаў. Для мяне ўсе яны — проста гледачы. Дакладна ведаю, што адны прыходзяць у тэатр пацешыцца, а другія шукаюць там адказы на сур’ёзныя пытанні. У нас многія прыходзяць у тэатр, каб паглядзець на рэканструкцыю, і ўвогуле ўпершыню трапляюць на спектакль! Таму людзі розныя ў тэатр прыходзяць...

***Наогул, толькі 7 працэнтаў насельніцтва ўсёй Зямлі ходзіць у тэатр!***

Што зрабіць, каб людзі палюбілі тэатр? Мне здаецца, трэба, каб публіка прыходзіла не проста ў тэатр, а адчувала яго перш за ўсё як частку сваёй нацыянальнай культуры.

— Палітычных дзеячаў у нашым тэатры я амаль не бачу, акрамя работнікаў Міністэрства культуры, — *адказвае **Аляксандр Гарцуеў***. — Але яны ходзяць у тэатр таму, што гэта іх прафесійны абавязак. Нейкіх іншых медыйных асоб я ў РТБД не заўважаю. Можа, проста таму, што не ўсіх ведаю? Зрэшты, калі б генпракурор прыйшоў у тэатр, я, напэўна, быў бы ў курсе...

Як правіла, многія вядомыя асобы ходзяць у Купалаўскі і Вялікі — гэта першыя тэатры нашай краіны. Некаторыя прыходзяць туды, каб проста засвяціцца. Не хачу сказаць, што гэта паказуха, хутчэй такая іміджавая, статусная штука — з’явіцца там на прэм’еры.

Відаць, не прыжылася традыцыя ў нашай палітычнай эліты хадзіць у тэатр. Напрыклад, той жа Сталін вельмі любіў глядзець ва МХАТ не што-небудзь, а “Белую гвардыю” Булгакава! Кажуць, ён бачыў гэты спектакль 19 разоў...

Памятаю часы, калі ў Купалаўскі прыходзіў Пётр Міронавіч Машэраў — я тады быў яшчэ зусім маладым акцёрам. Прычым тое, што ён у зале, мы разумелі, толькі выйшаўшы на сцэну: ён сядзеў ва ўрадавай ложы. Машэраў часта бываў у Тэатры Янкі Купалы. Мабыць, любіў тэатр, быў асабіста знаёмы з многімі акцёрамі... Пасля гэтага я не памятаю такой пільнай увагі першых асоб да Купалаўскага...

Дарэчы, 80—85 працэнтаў гледачоў у тэатры — гэта жанчыны ад 35 гадоў і вышэй. Я займаюся педагогікай і выдатна бачу, што цяпер нават у рэжысёры ідуць амаль адны жанчыны! Нядаўна набіраў курс у Акадэміі мастацтваў, і да мяне прыйшоў паступаць толькі адзін малады чалавек, усе астатнія — дзяўчаты. Хоць традыцыйна лічыцца, што рэжысура — мужчынская прафесія. І я ўпэўнены, што гадоў праз 20 большасцю беларускіх тэатраў будуць кіраваць менавіта жанчыны...

**Марына КОКТЫШ.**

БОМОНД

## Марина Александрова: «В какой-то степени Минск — мой родной город»

*Актриса Марина Александрова рассказала о том, как снималась в Минске в фильме “Нереальная любовь”, который сейчас идет в столичных кинотеатрах.*



На съемки она приехала практически сразу после рождения сына.

— *Я каждые три часа кормила ребенка грудью*, — рассказала она 7days.ru. — *И не могла оставить его. Моим условием участия в фильме стало то, что на съемки в Минск и в Черногорию я поеду с няней и ребенком. В какой-то степени Минск — мой родной город, у меня бабушка оттуда, а дедушка из Борисова. Так что моя мама белоруска. В Минске мы жили рядом с парком, няня ходила с ребенком гулять, а через каждые три часа мне привозили его на площадку кормить. К этому времени я еще не успела войти в форму и смотрелась немного пышкой. Особенно на фоне изящной Равшаны Курковой. Но, мне кажется, это пошло на пользу фильму. Получилась русская Бриджит Джонс. Мой персонаж — девушка наивная, несовременная, с романтическими представлениями о любви.*

Кстати, фильм “Нереальная любовь” был снят при поддержке “Беларусьфильма” и нескольких белорусских компаний. Продюсером и одним из авторов сценария стал белорус Глеб Шпригов, который ранее продюсировал фильмы “На безымянной высоте”, “В июне 41-го”, “Снайпер”, “Уланскую балладу”.

**Вера ВИР.**

ЧАСТНАЯ ЖИЗНЬ

## Дети вице-премьера Калинина получают «письма счастья» от ГАИ

*Вице-премьер Анатолий Калинин признался, что иногда нарушает Правила дорожного движения.*

*“Я тоже иногда люблю проскочить на скорости, и мне приходят “письма счастья”*, — рассказал А.Калинин на заседании коллегии Министерства транспорта и коммуникаций Беларуси. — *Правда, я езжу на машине детей, поэтому письма приходят им”.*

Таким образом, уточняет interfax.by, вице-премьер прокомментировал работу системы видеофиксации нарушений Правил дорожного движения.

В целом А.Калинин отметил, что данная система позволила снизить аварийность на дорогах Беларуси. *“По информации ГАИ, аварийность снизилась на 20—30%. Фотофиксация дисциплинирует водителей”,* — подчеркнул вице-премьер.

ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў АСОБАХ

# Генадзь Грушавы: люстэрка жыцця

*(Працяг. Пачатак у №№11,12.)*

## Першы Чарнобыльскі Шлях

Пасля гэтага мітынгу я прапрацаваў пэўную праграму, каб узняць грамадства і ўцягнуць у справу дапамогі пацярпелым беларусам міжнародныя арганізацыі. Менавіта тады, у ліпені-жніўні 1989 года, і з’явілася ідэя правядзення ў Мінску першага Чарнобыльскага Шляху, што прайшоў 30 верасня. Менавіта я настойваў, каб гэтая маштабная акцыя праводзілася ў сталіцы, хаця не ўсе франтаўцы мяне падтрымалі і нават спрабавалі адкласці дзень правядзення Шляху. Са сваімі калегамі па БНФ я ездзіў па забруджанай радыяцыяй зоне, наведаў Хойнікі, Нараўлянскі і Брагінскі раёны Гомельскай вобласці, адкуль прывезлі 1.600 подпісаў жыхароў у падтрымку правядзення шляху. Шмат подпісаў сабралі ў сталіцы, а на пачатку верасня звярнуліся ў Вярхоўны Савет, каб нам дазволілі правесці акцыю. Але ніякага дазволу мы не атрымалі, больш за тое, за два тыдні да Шляху пачалася прапагандысцкая кампанія, арганізатары якой абвінавачвалі нас у тым, што мы імкнёмся набыць сабе палітычны капітал. Акрамя таго, на 30 верасня ўлады аб’явілі правядзенне суботніка па ўборцы бульбы, гародніны і садавіны, а таксама кірмашоў, дзе ўсё гэта прадавалася па танных коштах. Студэнтаў накіравалі на сельскагаспадарчыя работы ў вёску.

Нягледзячы на тое, што акцыя не была дазволена, у гэтым самым буйным Чарнобыльскім Шляху ўдзельнічалі каля 30 тысяч чалавек, якія ад Мінскага гадзіннікавага завода прайшлі праз усю сталіцу і правялі мітынг на тагачаснай плошчы імя Леніна (сённяшняя плошча Незалежнасці). Я быў уражаны, калі ўбачыў каля 20 пажарных машын і незлічоную колькасць спецыяльных міліцэйскіх аўто, і баяўся, што паўторыцца сілавы сцэнарый развіцця падзей, які меў месца падчас правядзення мінулагодніх Дзядоў.

## Нас не стрымаць

Але ўжо за 15 хвілін да пачатку Шляху сабралося столькі людзей, што было відавочна — іх не стрымаць. Тым больш што людзі былі ў прыўзнятым настроі і прыйшлі з дзецьмі. Нас тройчы, але безвынікова спрабавалі збіць з маршруту і накіраваць на стадыён “Дынама”. Шлях сабраў такую колькасць людзей і выклікаў такі водгук у краіне, што мы зламалі супраціў улад. Таму калі 25—26 лістапада 1989 года мы правадзілі асамблею народаў “Чарнобыльскі Шлях” з пасяджэннем Чарнобыльскага трыбунала і асуджэннем камунізму, урад накіраваў да нас міністра аховы здароўя. Тым не менш мяне разам з Пазьняком і Юрасём Хадыкам пацягнулі ў суд Маскоўскага раёна сталіцы, дзе спачатку пакаралі 10 суткамі адміністрацыйнага арышту. Аднак пасля маіх слоў: *“Я — не герой. Я рабіў гэтую працу, каб ратаваць сваіх, вашых і іншых дзяцей. Я ж не ладзіў гэтую акцыю, каб захапіць уладу. А што ж робіце вы? Вы з мяне робіце героя”* — арышт быў заменены на штраф у памеры майго месячнага заробку. І толькі калі судовыя выканаўцы прыйшлі апісваць маю маёмасць, гэтую суму выплаціла мая жонка Ірына. У сувязі з правядзеннем Чарнобыльскага Шляху ўлады ўзбудзілі супраць нас дзесяць (!!!) судовых спраў.

## Дзеці палешукоў — у Індыю

Трэба адзначыць, што ідэя з замежным адпачынкам беларускіх дзяцей, пацярпелых ад катастрофы на ЧАЭС, таксама належыць Пазьняку. Менавіта ён восенню 1989 года паведаміў, што суполкі беларусаў Эстоніі гатовы прыняць каля пяці тысяч нашых дзяцей, але за кошт беларускага боку. Дзякуючы таму, што ў нас з жонкай былі знаёмыя ў Германіі, з якімі я пасябраваў тады, калі быў на гадавой навуковай стажыроўцы, мы звярнуліся да немцаў. Затым я стаў сустракацца з замежнікамі, якія прыязджалі ў Беларусь па лініі розных фондаў. Тады я лётаў па свеце і набываў знаёмствы з вядомымі людзьмі, у тым ліку з пісьменнікам Алесем Адамовічам і прафесарам Георгіем Лепіным, з казахскім паэтам Алжасам Сулейманавым і актывістамі ўкраінскага “Зялёнага свету”, а таксама з старшынёй Савецкага фонду міру, чэмпіёнам свету па шахматах Анатолем Карпавым. Яго намеснік абяцаў накіраваць у Індыю нашых дзяцей. У адной з грамадскіх арганізацый Беларусі, што мела права афармляць замежныя пашпарты, знайшліся добрыя людзі, якія гэта зрабілі, і 30 нашых дзетак з чарнобыльскай вёскі Стрэлічава Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці 20 снежня 1989 года паехалі на адпачынак у Індыю. Гэта была першая група беларускіх дзяцей, якую мы адправілі на аздараўленне ў замежжа.

## Свет дапамагае дзецям Чарнобыля

Ужо ў 1990 годзе наступнымі краінамі сталі Нарвегія, а затым ГДР, куды паехалі пяць тысяч нашых дзяцей. Потым у Вярхоўным Савеце дабіўся, каб для афармлення замежных пашпартоў дзіцячым групам нам дазволілі пасадзіць у консульскі аддзел Міністэрства замежных спраў дзвюх жанчын з камітэта “Дзеці Чарнобыля”. Затым мяне запрасілі ў Польшчу на сустрэчу з кіраўніцтвам “Салідарнасці”, маршалкам Сената і міністрам аховы здароўя, пасля чаго я атрымаў каля 1.600 запрашэнняў і распачаў праграму рэабілітацыі нашых дзяцей у Польшчы.

Хто дапамагаў нам? Спачатку гэта былі палітыкі краін Еўропы і Амерыкі, хто ўспрыняў справу выратавання беларускіх дзяцей як спробу вызвалення нашага грамадства ад камунізму. Потым да гэтай справы далучыліся паважаныя грамадскія арганізацыі, скіраваныя на дэмакратычныя змены. Прычым гуманітарныя арганізацыі спачатку трохі палохаліся супрацоўнічаць з намі, бо мы выступалі не ад імя дзяржавы, а супраць тагачаснай улады. І такая наша пазіцыя не ўкладвалася ў галовы кіраўніцтва гуманітарных структур, якія прызвычаіліся супрацоўнічаць з дзяржавай, а не процістаяць ёй. Потым да справы дапамогі дзецям Чарнобыля далучыліся бацькоўскія аб’яднанні і хрысціянскія цэрквы. У кожнай з нашых груп замежнікі бачылі сімвал ратавання ад Чарнобыля і вызвалення ад камунізму. Заходняму грамадству, якое ведала пра існаванне жалезнай заслоны, КДБ і партыйнага дыктату, было цікава, як гэта ў СССР людзі не толькі самі вырваліся з путаў таталітарызму, але і цягнуць за сабою на волю сваіх дзетак і даюць ім новую перспектыву.

## Этапы дзейнасці фонду

За перыяд з 1989 года 32 краіны свету і 526 замежных арганізацый прынялі да сябе каля 500 тысяч беларускіх дзяцей. Прычым гэтая справа пачыналася ў вельмі цяжкіх умовах, калі не было ніякіх юрыдычных падстаў, якія маглі б нас абараніць пры прарыве гэтай таталітарнай блакады, не было грошай, і толькі 20 лістапада 1990 года беларускі дабрачынны фонд “Дзецям Чарнобыля” атрымаў свой юрыдычны адрас. Уся гэтая эпапея дзеліцца на тры этапы: першы — прарыўны (1990—1991 гады), калі за мяжу было адпраўлена 20 тысяч беларускіх хлапчукоў і дзяўчат; другі (1992—1995 гады), падчас якога пачалося наўмыснае разбурэнне чарнобыльскіх праграм і іхняя пераарыентацыя ў дзяржаўныя і прапагандысцкія; трэці (1996—2004 гады), калі гэты працэс пашырыўся і рэзка звузіліся грамадскія магчымасці па аздараўленні нашых дзяцей. Гэты перыяд характарызуецца запужваннем дабрачынных структур, стварэннем Дэпартамента па гуманітарнай дапамозе пры Адміністрацыі прэзідэнта і ўвядзеннем ліцэнзавання гуманітарнай дапамогі. Такія крокі ставілі дабрачынныя арганізацыі ў прамую залежнасць ад чынавенства, а не ад закона.

У 2005 годзе галава дзяржавы абвясціў пра забарону паездак беларускіх дзяцей у Еўропу. Дарэчы, тады не змаглі выехаць за межы Беларусі амаль 20 тысяч нашых дзяцей, і ў 2005 годзе ўлады фактычна знішчылі дзіцячую чарнобыльскую праграму як грамадскую, самастойную і ўплывовую. І сёння беларускіх дзяцей за мяжу вывозяць выключна па дзяржаўных каналах. Дарэчы, у найбольш актыўны перыяд дзейнасці фонду ў краіне працавалі 72 нашы структуры, што аб’ядноўвалі 15 тысяч сяброў. Гэта вельмі напалохала ўлады і стала галоўнай падставай для знішчэння нашых структур. Яны былі даволі аўтарытэтныя, бо маглі прапанаваць уладам розную гуманітарную дапамогу — ад лекаў, расходных матэрыялаў і медыцынскага абсталявання да арганізацыі замежнага адпачынку дзяцей. Так, толькі ў 1994 годзе па нашай лініі ў Беларусь прыйшла медыцынская дапамога на суму каля 62 мільёнаў долараў ЗША.

## Супрацьстаянне

У 1995—1996 годзе я перажыў моцны ціск з боку ўлад у сувязі з маёй адкрытай барацьбой супраць знішчэння дэмакратычных набыткаў беларускага грамадства. Улады непакоілі ўнёсак фонду ў дзейнасць беларускай апазіцыі і павышэнне аўтарытэту нашай арганізацыі, якая падтрымала звольненых з працы сталічных метрабудаўцаў — удзельнікаў страйку ў жніўні 1995-га, і яны і стварылі сістэму альтэрнатыўнай дапамогі насельніцтву Беларусі. І калі я пайшоў на дадатковыя парламенцкія выбары 1996 года і стаў адзіным апазіцыйным кандыдатам, які афіцыйна перамог, прэзідэнт не пажадаў уключыць мяне ў склад Вярхоўнага Савета 13-га склікання. Я паехаў у Маскву, у юрыдычную службу расійскага Цэнтрвыбаркама, каб атрымаць адпаведную ацэнку гэтым дзеянням. У снежні 1996 года ў 15 постчарнобыльскіх раёнах Беларусі, дзе працаваў раней, я за пяць дзён сабраў каля 120 тысяч подпісаў пад патрабаваннем прызнаць Генадзя Грушавога дэпутатам парламента. Вынікам маёй барацьбы сталі праверкі дзейнасці фонду, а ў сакавіку 1997 года ў маім офісе з’явіўся галоўны спецыяліст Савета бяспекі краіны, палкоўнік КДБ, і сказаў, што, паколькі вынікі папярэдніх праверак іх не задаволілі, цяпер ужо іхняя структура будзе правяраць дзейнасць нашага грамадскага аб’яднання.

## Гісторыя з грузавікамі

Пасля паўтарамесячнай праверкі камісія Савета бяспекі абвінаваціла мяне ў тым, што ў 1992 годзе, калі немцы прыслалі на адрас фонду ў Беларусь больш за 10 гэдээраўскіх грузавікоў “IFA”, я перадаў іх айчынным гаспадаркам, але падмануў дзяржаву, бо не аплаціў падаткі на вялізную суму. Паколькі ў 1997 годзе я кіраваў аргкамітэтам Чарнобыльскага Шляху, у красавіку на мяне была заведзена крымінальная справа, пра што ў эфіры Першага канала Беларускага тэлебачання паведаміў пракурор горада Мінска. У гэты момант я праводзіў у нямецкім горадзе Майнц устаноўчы сход міжнароднай рады “Будучыня — дзецям Чарнобыля” з удзелам прадстаўнікоў грамадскіх чарнобыльскіх асацыяцый з Беларусі, Бельгіі, Германіі, ЗША, Італіі, Канады, Нарвегіі і Швейцарыі. Пасля таго як я быў абраны кіраўніком гэтай міжнароднай рады, мне патэлефанавалі нямецкія сябры і паведамілі пра невясёлую навіну з Мінска. На маю думку, гэтая тэлезаява пракурора сталіцы пра тое, што наш фонд з’яўляецца злачыннай арганізацыяй, павінна была паказаць грамадству, хто сапраўдны гаспадар у беларускім доме, а таксама сарваць нашы грамадскія ініцыятывы і акцыі.

## Употай на Радзіму

Я дзень думаў і вырашыў усё-такі ехаць на Радзіму. Ехаў на пparticip пракладных праз Маскву, гуляў у канспірацыю, пераходзіў з аднаго вакзала на другі, не пайшоў да хаты, там не начаваў, нікога не папярэдзіў пра сваё вяртанне і нават нікому не патэлефанаваў, калі прыехаў. І мяне не вылічылі. Я пераначаваў у кватэры сяброў, ад якой у мяне былі ключы, і, калі раніцай 26 красавіка 1997 года паназіраў, што вакол усё ціха, узяў таксі і прыехаў да прэзідыума Акадэміі навук якраз на пачатак Чарнобыльскага Шляху.

Але адна справа нелегальна прыехаць у краіну, іншая — скрытна пакінуць яе. Пасля таго, як я адкрыў мітынг і хвілін 20 вёў яго, вакол мяне па дамоўленасці стварыўся невялікі натоўп сяброў, я перадаў мікрафон, надзеў нейкі плашч і капялюш, зняў акуляры і літаральна за 10 секунд поўнасцю змяніў выгляд. Мы пастаялі яшчэ колькі хвілін, потым гэты натоўп патроху адышоў ад трыбуны, да нас далучыліся свае людзі з міліцыі, якія на службовым аўтобусе за Мінскам пасадзілі мяне на электрычку, а ў Барысаве я ўскочыў у маскоўскі цягнік.

*(Працяг на 8-й стар.)*

Народная Воля
http://www.nv-online.info
18 ЛЮТАГА 2014 г.

ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў АСОБАХ

# Генадзь Грушавы: люстэрка жыцця



**1990 год. Я разам з Алесем Адамовічам, які па асабістай ініцыятыве аб'ехаў шмат гарадоў Японіі, змог прыцягнуць увагу грамадскасці да наступстваў Чарнобыля і прывёз на Беларусь 1 мільён іен. Мы з ім вырашылі перадаць гэтыя грошы дырэктару Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра дзіцячай анкалогіі і гематалогіі ў Бараўлянах Вользе Алейнікавай для лячэння дзяцей, набыцця лекаў, рэактываў і абсталявання. Нягледзячы на ўсе каноны савецкага часу наконт валюты, Адамовіч перадаў спадарыні Вользе гэтыя вялікія грошы для беларускіх дзяцей, пацярпелых ад Чарнобыля. Для Адамовіча было вельмі важна, каб гэтыя грошы мэтанакіравана і стопрацэнтна пайшлі на карысць дзецям — на канкрэтную дапамогу, а не на нейкі ананімны рахунак, і сталі якімсьці дадаткам да бюджэтных асігнаванняў. Вось чаму я быў гарантам выканання волі дарыльшчыкаў — японскіх дабрачынцаў. Зараз пасадзілі б толькі за гэты здымак. А тады Адамовіч не хацеў паўтарэння сітуацыі, якая склалася, калі расійскія літаратары сабралі сродкі для беларускіх чарнобыльцаў і паэт Ігар Шклярэўскі перадаў іх у Магілёўскі аблвыканкам, а потым аніяк не мог знайсці, куды дзеліся гэтыя грошы.**

*(Працяг. Пачатак на 7-й стар.)*

## Лухта ў справе

Пасля вяртання ў Германію сустракаўся з кіраўніком бундэстага і яго фракцый, затым з жонкай мы накіраваліся ў Брусель, па запрашэнні фракцыі зялёных Еўрапарламента ўдзельнічалі ў адмысловых слуханнях, вынікам якіх стала спецыяльная рэзалюцыя Еўрапарламента ад 2 чэрвеня 1997 года супраць пераследу мяне і нашага фонду. Затым міністр замежных спраў ФРГ звярнуўся да свайго беларускага калегі, а бундэстаг — да беларускага парламента. Нямецкі бок прапанаваў, каб яго афіцыйныя асобы змаглі пазнаёміцца з крымінальнай справай супраць мяне, бо менавіта немцы накіроўвалі ў Беларусь гэтыя грузавікі "IFA". А паколькі беларускі бок лічыў, што КДБ усё зрабіў чыста, кіраўнік беларускага МЗС Іван Антановіч афіцыйна даў згоду на такі візіт нямецкіх спецыялістаў, што потым каштавала яму пасады. Згоду Антановіч даў, але замежнікаў не запрасіў, бо ў справе на мяне знайшлі лухту: паколькі нямецкі бок выставіў кошт грузавікоў у беларускіх рублях, я нашымі грашыма і заплаціў падаткі, а правяральшчыкі з Савета бяспекі абвінавацілі мяне ў нявыплаце падаткаў у доларах, зыходзячы з таго, што менавіта ў гэтай валюце нямецкі бок ацаніў грузавікі.

Абсурднасць абвінавачанняў супраць мяне пацвердзілі міжнародныя эксперты — юрысты з шэрагу краін Еўропы, якія пры падтрымцы МЗС ФРГ 12 лістапада прыехалі ў Мінск. Такім чынам справа супраць мяне развалілася.

## Рэвалюцыі не будзе

Але вярнуўся я на Беларусь толькі праз год, бо скончыўся тэрмін майго знаходжання ў ФРГ у статусе гуманітарнага ўцекача, а палітычнага прытулку я прасіць не хацеў. І хаця родныя хваляваліся за мой лёс на Радзіме, мяне вельмі цягнула дахаты, дзе ў мяне ўсё. Адна мая супрацоўніца, з якой мы пабачыліся ў Нямеччыне, звярнула ўвагу на тое, што ў мяне вочы, як у бамжа. Мабыць, так яно і было, таму што на Радзіме мяне чакалі неадкладная праца па ажыццяўленні гуманітарных праектаў, а таксама тысячы людзей, якіх я прыцягнуў да гэтай дзейнасці і якія мне паверылі.

Перад вяртаннем на Беларусь мяне прынялі ва ўплывовую германскую праваабарончую арганізацыю "Хельсінкскія грамадзяне", даручылі стварыць яе аддзяленне на Радзіме і вызначылі шэсць уплывовых нямецкіх палітыкаў і журналістаў для правядзення ўстаноўчага сходу гэтага аддзялення. Спачатку мы прыляцелі ў Маскву, правялі там такі сход з удзелам двух вядомых расійскіх праваабаронцаў і тэлебачання, а затым у сакавіку 1998 года ўсе разам прыехалі ў Мінск і з вялікім імпэтам правялі ўстаноўчы сход аддзялення нямецкай праваабарончай арганізацыі. Я быў у цэнтры ўвагі палітыкаў, праваабаронцаў і журналістаў, мяне лічылі найбольш верагодным кандыдатам ад дэмакратычных сіл на чарговых прэзідэнцкіх выбарах. Але мой адказ быў такі: *"Бранявік не прывёз. Красавіцкія тэзісы не напісаў. Рэвалюцыі не будзе".* Тым часам улады ціхенька і ўважліва назіралі за мною.

## Трэба зноў біць у званы

Сёння мы маем сістэмную палітыку пахавання ўсялякай грамадскай занепакоенасці, грамадскага кантролю і грамадскага супраціву наступствам Чарнобыля. Трэба адзначыць, што ў ланцугу ядзерных трагедый Чарнобыль не стаў кропкай, за ім ідзе Фукусіма — першая і, магчыма, не апошняя ядзерная катастрофа XXI стагоддзя. Фукусіма вярнула нас да Чарнобыля і нагадала, што гэтая трагедыя нікуды не знікла. Грамадству сёння патрэбна зноў выступаць супраць вяртання да палітыкі генацыду, якая існавала ў савецкія часы. Бо як можна браць шматмільярдныя крэдыты для будаўніцтва атамнай станцыі і адначасова адмаўляць большасці ліквідатараў наступстваў Чарнобыля ў бясплатных леках, а хворым ад радыяцыйнага апраменьвання — у спецыялізаванай медыцынскай дапамозе? Нам патрэбна не новая АЭС, а тэрміновае вяртанне ў чарнобыльскія рэгіёны сродкаў кантролю за паглынутай дозай радыяцыі дзеля будучыні нашых дзяцей. Грамадству трэба біць у званы, бо генацыд зноў вярнуўся на нашу зямлю. І тут я хацеў бы нагадаць пра асуджэнне камунізму, якое было зроблена 25—26 лістапада 1989 года ўдзельнікамі Чарнобыльскага трыбунала з шасці постсавецкіх краін. На гэтым своеасаблівым аналагу Нюрнбергскага працэсу выступалі сведкі ядзерных трагедый XX стагоддзя ў СССР. Яны прыводзілі канкрэтныя факты і распавядалі пра перажытае: як замоўчвалі праўду, адмаўлялі людзям у магчымасці ратаваць саміх сябе, прымушалі працаваць там, дзе нельга было гэта рабіць.

## Рашэнні трыбунала — актуальныя

Найбольш уразіла адна простая беларуская жанчына. Гэта быў сапраўдны голас народа. Яе выступленне было выразным, шчырым, рэзкім, гнеўным і абсалютна аргументаваным. Ні адзін палітык і навуковец не сказаў так пераканаўча, як сказала гэтая вясковая жанчына. І аргкамітэт БНФ быў настолькі ўражаны яе словамі, што вырашыў накіраваць запіс яе выступлення ў Вярхоўны Савет, бо ні адзін тагачасны яго дэпутат тады не разумеў чарнобыльскую праблему на такім узроўні, як гэтая цудоўная жанчына.

Людзі распавядалі і пра тое, як іх перасялялі з найбольш пацярпелых ад радыяцыі вёсак не цалкам усёй грамадою, а раскідвалі па краіне асобнымі сем'ямі, пра тое, што іх, як некалі ў сталінскія часы, вывозілі без анічога і на запасных пуцях вузлавых чыгуначных станцый трымалі цэлы дзень у замкнёных вагонах, выпускаючы толькі па патрэбе і забяспечваючы толькі вадою... Чарнобыльскі трыбунал вызначыў усе гэтыя здзекі як злачынствы таталітарнай сістэмы супраць народаў, як генацыд. Рашэнні трыбунала актуальныя і сёння.

## Цяжкасці з вылучэннем

Кіраўніцтва БНФ вырашыла як мага больш эфектыўна правесці кампанію па выбарах у Вярхоўны Савет 12-га скліканя. Тады існавалі два шляхі рэгістрацыі кандыдатаў — сход аднаго ці некалькіх працоўных калектываў з удзелам не менш як 300 чалавек альбо сход жыхароў акругі па месцы вылучэння. І кожны фронтавец максімальна мабілізаваў свае магчымасці на гэтую справу. Я спрабаваў вылучыцца на сваім гістарычным факультэце БДУ, але калегі мяне і слухаць не захацелі. Тады я звярнуўся да сваіх школьных сяброў, якія працавалі ў Навукова-даследчым інстытуце прыкладных фізічных праблем імя Антона Сеўчанкі БДУ ў Шчомысліцы. Менавіта школьныя сябры, якія ў 1989 годзе падтрымалі маё далучэнне да фронту, прапанавалі мне вылучацца на сходзе працоўнага калектыву НДІ. Сябры пагаварылі са сваімі калегамі, потым я два разы прыязджаў у Шчомысліцу і сустракаўся з навукоўцамі-фізікамі. На сходзе супрацоўнікаў інстытута я атрымаў амаль аднагалосную падтрымку і быў вылучаны кандыдатам у дэпутаты.

Я ўжо рыхтаваў дакументы для рэгістрацыі, як даведаўся, што па гэтай жа выбарчай акрузе шляхам сходу жыхароў спрабуе вылучыцца будучы лідар пратэстнага рабочага руху Сяргей Антончык. Кіраўніцтва Фронту прапанавала мне пакінуць гэтую акругу Антончыку і вылучацца праз сход жыхароў сваёй акругі па месцы пражывання ў раёне праспекта імя Аляксандра Пушкіна.

У сітуацыі цэйтноту я зноў распачаў выбарчую кампанію з вялікай дапамогай суполкі адданых сяброў Фронту з Фрунзенскага раёна сталіцы. Для сходу трэба было знайсці прыдатнае памяшканне і сабраць не менш за 300 жыхароў. Першы раз нам сарвалі такі сход — зала школы, з дырэкцыяй якой мы дамовіліся, аказалася зачыненай. Быў прызнаны нелегітымным другі сход, на які, па падліках прадстаўніка раённай адміністрацыі, сабраліся толькі 282 чалавекі. І толькі на трэцім сходзе, калі прыйшлі амаль 400 жыхароў, я быў вылучаны кандыдатам, нягледзячы на агрэсіўныя выступленні ветэранаў і пазіцыю пяці канкурэнтаў — прадстаўнікоў партыйна-савецкай наменклатуры. З-за шматлікіх скаргаў ветэранаў на легітымнасць сходу акруговая выбарчая камісія двойчы разглядала мае дакументы на рэгістрацыю кандыдатам у дэпутаты. Тады мне добра дапамог сваімі вострымі выступленнямі на акруговай камісіі вядомы журналіст, карэспандэнт газеты "Труд" па Беларусі Сяргей Ваганаў.

Так што вылучэнне далося мне вялікімі высілкамі і заняло шмат часу.

*(Працяг будзе.)*

БАСКЕТБОЛ

## *Белорусские баскетболисты узнали соперников по квалификации мужского чемпионата Европы 2015 года*

Как известно, в испанской Барселоне состоялась жеребьевка второго квалификационного раунда мужского чемпионата Европы 2015 года.

Белорусская дружина будет выступать в группе D вместе со сборными Бельгии, Дании и Македонии.

Составы остальных квалификационных групп:

А — Босния и Герцеговина, Великобритания, Исландия;

В — Болгария, Израиль, Нидерланды, Черногория;

С — Австрия, Германия, Люксембург, Польша;

Е — Венгрия, Грузия, Португалия, Польша;

F — Латвия, Румыния, Словакия, Швеция;

G — Италия, Россия, Швейцария.

Отборочные матчи пройдут с 10 по 27 августа 2014 года. Путевки в финальный этап Евробаскета-2015 получат победители групп, а также шесть лучших команд из занявших вторые места. Они присоединятся к 11 командам, которые уже освобождены от квалификационной нервотрепки. Это хозяева финала украинские баскетболисты, а также сборные Греции, Испании, Литвы, Сербии, Словении, Турции, Финляндии, Франции, Хорватии и Эстонии.

КОРРУПЦИЯ

## *За счет предприятия...*

Как сообщила старший оперуполномоченный по особо важным делам ГУБЭП МВД **Вероника Посметьева**, экс-директор филиала "Минские электрические сети" восстанавливал загородный дом за счет предприятия.

Почти два года назад на его даче случился пожар. Восстанавливали дом руководителя работники предприятия в рабочее время и без оплаты.

*"При выполнении данных работ по указанию руководителя использовалась автотехника филиала РУП "Минскэнерго", также были израсходованы принадлежащие филиалу строительные материалы,* — комментирует ГУБЭП МВД. — *Стройматериалы и работа задействованной спецтехники списывались по фиктивным актам выполненных работ на различных объектах филиала. В результате злоупотребления своими служебными полномочиями бывшим директором филиала причинен предприятию ущерб в особо крупном размере — на сумму 60 миллионов белорусских рублей".*

Расследование продолжается. Бывшему чиновнику за злоупотребление служебными полномочиями грозит наказание в виде лишения свободы от трех до десяти лет с конфискацией имущества.

ЧУЛІ?

## *Літва папярэдзіла «бензавозаў»*

Літоўскі мытны дэпартамент папярэдзіў, што зараз на ўсіх памежных пастах ад кіроўцаў вялікагрузных машын могуць запатрабаваць пісьмова задэклараваць гаручае, якое знаходзіцца ў баках машын.

З ідэяй абмежавання ўвозу ў Літву паліва ў паліўных баках выступіў прэм'ер-міністр **Альгірдас Буткявічус**. Гэтыя захады павінны спыніць ценявы гандаль гаручым з Беларусі і Расіі. *"Не павінна быць так: паводле наяўнай інфармацыі, у суткі з Беларусі ўвозяць больш за 1 мільён літраў! Магу сказаць, што толькі ў мінулым годзе зачынілі 70 нелегальных заправак... З такой сітуацыяй у Літве я мірыцца не буду",* — сказаў Буткявічус.

Адным словам, лавачка прыкрываецца. Пры гэтым адзначым, што так званыя бензавозы — людзі, якія перавозяць гаручае ў краіны ЕС, — стварылі на ім сапраўдны ценявы бізнес.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

МЕДДАПАМОГА

## *Колькі раз мінчанін можа звярнуцца ў паліклініку?*

Мінскі гарадскі Савет дэпутатаў прыняў Тэрытарыяльную праграму дзяржаўных гарантый па забеспячэнні медыцынскім абслугоўваннем насельніцтва Мінска на 2014 год. Прасцей кажучы, вызначыў, колькі наведванняў паліклінікі, выклікаў "хуткай дапамогі" можа забяспечыць гарадскі бюджэт мінчанам.

Атрымалася, што, зыходзячы з нарматываў, адзін жыхар сталіцы можа:

| | |
|---|---|
| ***наведаць паліклініку*** | прыблізна 10 раз у год, |
| ***выклікаць урача на дом*** | прыблізна 1 раз у год, |
| ***выклікаць "хуткую дапамогу"*** | прыблізна 1 раз у 3 гады, |
| ***прайсці лячэнне ў стацыянары цягам 11 дзён*** | прыблізна 1 раз у 4 гады. |

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

Анна ШАДРИНА:

# «В Беларуси страшно признаться, что у тебя нет романтического партнера»

*На презентации книги минского социолога и журналиста Анны Шадриной "Не замужем: секс, любовь и семья за пределами брака" автор пыталась разобраться, почему незамужних женщин с каждым годом становится все больше, и попутно выясняла, отчего ей самой не удается найти романтического партнера.*

## Социология с человеческим лицом

Исследованием, которое легло в основу книги, **Анна Шадрина** занялась не из праздного любопытства. Ближе к тридцати годам она сама задумалась: почему до сих пор не замужем? А ведь и не хочется. И сколько еще женщин нормально живут вне брака и чувствуют себя полноценными и довольными? Нормально ли это: быть счастливой без партнера?

*"Есть миф, что брачная пара — это лучший из миров,* — поясняет автор. — *Я пыталась ответить сама себе, почему же тогда складывается так, что в Беларуси и России самые высокие в мире показатели разводов? И почему, если любовь и семья самые значимые вещи в жизни, этот идеал так трудно воплощается?"*

## Уж замуж невтерпеж?

Материал для своей работы Анна Шадрина собирала в течение нескольких лет, общаясь с незамужними и разведенными дамами из крупных городов Беларуси и России. В основном своими душевными переживаниями делились журналистки, психологи, социологи. Оказалось, что проблемы у всех схожи — не замужем в XXI веке быть почти непристойно!

*"Мне было очень важно встретиться и общаться с реальными женщинами,* — рассказала Анна. — *Я организовала семинар и назвала его "Почему я одна". В Минске максимальный аншлаг — пять человек, причем трое из них гости. Рекламные статьи собирали множество просмотров, но никто не звонил. Оказалось, что в нашей стране это очень страшно — признаться, что у тебя нет романтического партнера. Но как только семинар назовешь "Что происходит с семьей", откликается множество женщин, многие из которых — одиночки".*

Идея о необходимости брака настолько прочно въелась в мозг женщин, что некоторые осознанно откладывали свою жизнь до лучших, замужних времен. Например, одна из участниц опроса призналась, что, несмотря на свою страстную любовь к музыке, не покупала качественный проигрыватель. И дело было не в деньгах. Просто дама перманентно находилась в поиске мужа. А вдруг музыкальный центр будет у будущего избранника? Зачем в семье два музыкальных центра?

## А почему не замужем?

Анна призналась, что ей довольно часто приходится сталкиваться с полным непониманием и скептическим отношением к ее работе. Даже во время презентации один из гостей пытался добиться ответа на мучавший его вопрос: учит ли книга Анны, как выйти замуж?



*"Так что, ваша книжка про то, что за иностранцев выгодно выходить?* — недоумевал аноним, представившийся журналистом. — *Или про то, что девушкам выгоднее не выходить замуж, а получать подарки от богатых кавалеров? И вообще, вы замуж вышли?.."*

Стоит отметить, что еще до того, как автор успела дать ответ, любопытствующего едва не искусали поклонницы творчества Анны Шадриной. Для них разглагольствования гостя были еще одним подтверждением того, что для общества между понятиями "одиночка" и "одиночество" стоит знак равенства.

*"Когда мы говорим о браке, то сразу представляем определенную картинку,* — попыталась объяснить "Народной Воле" разницу Анна. — *Между тем мы не знаем, живут ли люди вместе, есть ли у них дети, занимаются ли они сексом, есть ли отношения на стороне. Так же, когда мы говорим о незамужней женщине, мы не можем сказать о ней ничего определенного: есть ли у нее партнер или партнеры, секс. В нашей культуре незамужняя женщина представляется как одинокая. Мне кажется, в этом много иронии. Где сегодня можно найти то место социальной изоляции, где есть так называемая "одинокая женщина"?"*

"Не замужем: Секс, любовь и семья за пределами брака" — дебютная книга, но Анна надеется, что ее авторская судьба сложится удачно. Сейчас социолог планирует новое исследование. Анна Шадрина хочет изучить репродуктивное поведение современных белорусов. Должны ли дети рождаться исключительно в браке, какова судьба суррогатного материнства? Возможно, ответы на эти вопросы мы увидим в следующей книге автора...



К СЛОВУ

## Что было, то было

Интерес читателей и журналистов к книге Анны Шадриной объясняется не только актуальностью темы. Скорее любопытных притягивают некоторые пикантные моменты биографии женщины. До 2010 года Анна являлась заместителем главного редактора газеты "Советская Белоруссия". Она даже была внесена в списки невъездных в Евросоюз, но смогла добиться отмены этих санкций. Сегодня социолог и автор книг весьма сдержанно вспоминает о своей бывшей работе.

*"Когда я читаю разные рецензии и вижу фразы о том, что книга написана бывшим звмредактором "СБ", изнутри меня это выглядит так, будто мое прошлое пытаются представить моим настоящим,* — высказалась на презентации Шадрина. — *В настоящий момент я не связана с этой газетой. И я не могу ни отрицать этого, ни изменить прошлое. Но я развиваюсь, и по моей книге можно видеть, какова система моих ценностей сегодня".*

**Мария МАЛЕВИЧ.**

## С Днем рождения, Галина Семеновна!

Дети войны... Голодное, трудное время не растлило, а закалило юные сердца. Это поколение идеалистов, не отягощенных мещанством. Их поэзия как способ самовыражения чистейших душ: "Как искренне любили, как верили в себя..."

Да, я о наших поэтах, в числе которых — Генадь Буравкин, Рыгор Бородулин, Василь Зуёнок, Михась Стрельцов и его муза, жена **Галина Семеновна Стрельцова,** которая в своих публикациях стремится донести до нас настроение тех лет, того поколения, правдивую летопись событий.

С Днем рождения Вас, дорогая Галина Семеновна! Здоровья Вам, счастья, вечной красоты и молодости!

### Муза

*Петрарку "родила" Лаура.*
*Потом была Аннушка Керн.*
*Твоей же красой неземною плененный*
*Стрельцов в поэзию сделал крен.*

*Ты ангелом в небо взлетала,*
*Властительница грез его, снов.*
*И перышком легким упала*
*В звенящий родник его слов...*



**Людмила ЧИГИРЬ, подруга.**



**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл. (017) 3286871.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: (017) 3286904, 3286906, (029) 7753871**
**nvonlineinfo@gmail.com**
**http://www.nv-online.info**

ISSN 2071-9647

**Падпісныя індэксы: 63222, 632222**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**

**У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не этае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размшчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца маэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзярўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. дадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб яржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні яржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП 02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 17.02.2014 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 27020 экз. Заказ №597.**